УДК 821.161.1-1
ББК 84(4Беи)
П69

**Пракаповіч, І.**

П69 Снежны вэлюм шыпшыны : чорныя і белыя вершы : зборнік паэзіі / Ігар Пракаповіч. — Мінск : Кнігазбор, 2011. — 220 с.

ISBN 978-985-7007-28-8.

У новай кнізе вядомага паэта і краязнаўцы Ігара Пракаповіча, у якую ўвайшлі вершы розных гадоў, адлюстраваліся складаныя варункі жыцця чалавечага, у вірах якога спалучаюцца хвалі высокай духоўнасці і прыніжанай пачуццёвасці, самаахвярнага патрыятызму і здрадніцкай абыякавасці, узнёслага кахання і шэрай будзённасці.

**УДК 821.161.1-1**
**ББК 84(4Беи)**

**ISBN 978-985-7007-28-8**



# I

# «Дух набірае вышыню...»



Ёсць шмат прычын,
каб словам славіць Бога
За шчасце жыць
і бачыць гэты свет.
За тое, што
не скончана дарога,
Якой іду —
рамантык і паэт...



На супрацьлегласці падзелены Сусвет:
Святло і змрок, сляпая ноч і дзень.
Ёсць негатыў, і ёсць калёр-партрэт,
Ёсць птушка ў небе і ад птушкі цень.

І чалавек асновай мае крыж —
На ўсе вятры расхрыстана душа.
Там сутыкаюцца Чарнобыль і Парыж,
Няўтульна сэрцу пад лязом нажа.

Ды мне здаецца простым гэты свет,
Хоць я у ім — звычайны, просты госць.
Я пакідаю белы з чорным след,
Бо д'ябал ёсць.
Ды Бог таксама ёсць!



Душа плыве на хвалях цішыні.
Яе нясе матыў пяшчоты тонкі.
І гарадоў далёкія агні
Нібы зацягвае бялюткай плёнкай.

Усё далей знаёмая зямля,
Усё бліжэй затокі ціхі бераг,
У плыні часу памяняўся я,
Ды не згубіла моцы мая вера.

Стамлёны зрок прамыецца слязой,
Пашырыць межы вечная прастора,
І неба, што цяжарнае зарой,
Запаліць і патушыць зоры.



Мараль.
Умоўнасці.
Законы.
Як павуціннем чалавек
аблытаны.
І так да скону.
Кароткі век.
Бясконцы век.

І як дзівацтва — незвычайнасць
свет разарве,
і на шматкі
ляціць у прорву
аднастайнасць,
мяшае хвілі і вякі.

І адчыняюцца прасторы,
якіх не ведала душа.
Святло нябеснае.
І зоры…
І таямнічы сэнс крыжа…

# Крызіс

Крызіс... Эпоха...
Там, за вуглом,
Ева гандлюе прыродным грахом.
Пане Адаме сплюнуў пад лаўку —
Яблык спакусы ляжыць на прылаўку.
Побач цячэ Іярданам народ.
Што? Хросны ход?

Сэрцы аблыталі транты, анучы,
Грошы складаюцца куча да кучы.
Блёкатам белым надзіць мана.
Цар — Сатана?

Ціха у храме пустэльным малюся,
Літасці ў Бога прашу Беларусі.
Ціха малюся...
А там, за вуглом,
Ева гандлюе прыродным грахом.

Хутка напоўняцца Божыя соты.
Хто будзе мёдам?



Зноў п'яны. І зноў — бязмежна
Люблю ўвесь сусвет навокал.
Што ж зробіш, калі я грэшны
І горды, як вольны сокал?

Ніякіх праблем не маю,
Плыву ў асалодзе горкай.
Ізноў я сябе губляю
Зляцелай з нябёсаў зоркай.

Даруй мне, магутны Божа,
Спакусы дурнога цела.
Гарэлка — то не раскоша,
Душа яе не хацела.

Душа была чыстай, шчырай.
Заўсёды яна з Табою.
Яе надзяліў Ты лірай
І радасцю незямною.

Ды ў нашых звышшчыльных сферах
Так цяжка жыць толькі Духам.
Я вязну у справах шэрых
І крочу няпэўным рухам.

Мой Божа, з Табой — паўсюдна.
Мой Божа, з Табой — заўсёды.
Парою — такі няўклюдны,
А часам — задужа горды.

Хоць зноў я бязмежна п'яны
І сэрцам такі ранімы,
Але я яшчэ каханы,
І нават Табой любімы…

# Пра нас

Кніга жыццяў пішацца пра нас.
Кожны крок цікавіць справавода.
Ўсё дакладна: месца, дзень і час,
Ўсё пра нас — ад крыку да зыходу.

Мы забыліся, што ёсць яшчэ Суддзя,
Акрамя манюк і фарысеяў, —
У Яго не будзе забыцця
На святых, прарокаў і зладзеяў.

Мы хварэем. Мусіць, ад грахоў.
Ад шляхоў гудуць і ломяць ногі.
...Як далёка да гары багоў,
І як блізка пекла, хвост і рогі...



У бязмежнай прасторы, дзе вецер і золь
І дзе чорнаю фарбаю ўпэцканы свет,
Нібы сэрца гарачае, б’ецца агонь
Ад той свечкі, якую пакінуў паэт.

Не кажыце, што вецер задуе святло,
Што дажджом заліе астравок цеплыні.
Не кажыце. Я ведаю добра адно:
Без такога агню не пражыць на зямлі.

Пакуль вера ў душы гаспадыняй жыве,
Не патухне агонь у бязмежжы палёў.
І чарговую цемру святлом узарве
Тая свечка, якую запальвае кроў.



Замкнулася неба
на тысячу тысяч замкоў.
Душа пацяжэла —
палёт так нялёгка даецца.
Грахі не пускаюць
пакінуць заземлены схоў,
Грахі прымушаюць
ачысціць ад накіпу сэрца.

А часу так мала…
Заблытана ў нерат жыцця
Стамлёнае цела,
адчайна шукае дарогу.
І бачыцца марнасць
усіх намаганняў… Хаця
Шляхі ўсе зямныя
вядомыя Госпаду Богу…



Цягне на неба часцей глядзець,
Шукаць сярод зорак Бога.
Хочацца нешта святое мець
Ў краіне, дзе ўсё — нічога.

Планету раскручвае задыяк,
Мільгаюць магічна знакі.
А ў глебе ўсё точыць свой ход чарвяк,
Назад адпаўзаюць ракі.

Калыску люляе сусветны сум,
І не растуць эмбрыёны.
Усходы пачуццяў накрыў самум,
А дрэвы пазбавіў кроны.

На фоне сузор'яў ляціць кажан,
Пачвара з зямлі смяецца.
У гэтай краіне, дзе ўсё — падман,
Жывыя — душа і сэрца…



Віно па келіхах разліта,
У печцы полымя дрыжыць.
Душа на ўсе вятры адкрыта,
І ёй зусім не страшна жыць.

Бо недзе там, у цемры ночы,
За друзам тысячы дарог,
За ёю пільным вокам сочыць
Ці то анёл, ці то сам Бог.

І цёпла робіцца на сэрцы,
І на пачуццях тае лёд.
Яшчэ учора ў паняверцы
Не марыў я пра крыгаход.

А вось, атулена спакоем,
Душа глядзіць у змрок начны.
Ёй гэтак блізка ўсё зямное,
І незямныя нават сны…



Я Вас кахаю…
Так, я Вас кахаю.
За што? — спытаеце.
Ды ні за што, а так…

Вось так, як я жыву,
як верш для Вас складаю.
Ва ўсім — глыбокі сэнс.
на ўсім — таемны знак.

Нам сэрца Богам дадзена,
жыццё нам Богам дадзена,
каб мы каханнем мералі
штодзённа прыгажосць.

Бо тое ўсё не вечнае,
што схоплена ці скрадзена,
і дзе замала шчодрасці —
заўжды пануе злосць.

— Як дзіўна Вы гаворыце…
Як у царкве, гаворыце…
Напэўна, нават верыце,
што ёсць на свеце Бог?

— Вядома... Гэта ж — ісціна.
У гэтым шумным горадзе
без Бога і без шчырасці
знайсці б я Вас не змог...



Задажджыла, моцна задажджыла…
Занялася далячынь смугой
І душу ізноў заваражыла
Незямной, няведамай тугой.

Далягляд губляецца ў тумане,
І нябёсы ўпалі на зямлю.
У дажджы, нібыта ў Божым храме,
Я жыццё аб літасці малю…



Вечар дажджом
па шыбах паплыў.
З неба —
лямант варон.
Вось, на зямлі
яшчэ дзень пражыў,
Быццам
пабачыў сон.
Быццам салодкі
глынуў нектар,
Вусны
абмыў вадой.
І у люстэрку —
твар у твар —
Сустрэўся
з самім сабой.
Што я, мінулы,
хачу сказаць?
Бога
аб чым маліць?
Можа, каб даў
яшчэ сіл кахаць,
І на Зямлі
пажыць…

# Над сумётамі

Над сумётамі вечнай прасторы
Пераходзіць заход у світанне,
Незабруджаным позіркам зоры
Рэхам клічуць душу да яднання,

Да адзінства з агнём незгасальным
На мяжы небыцця і бяссмерця,
Да сплячэння ў віхуры сакральнай,
Дзе гучыць незвычайная песня.

Мне загадкавы чуецца голас,
Зразумелымі робяцца гукі:
Да душы адзінокай і голай
Бог працягвае цёплыя рукі…

# На гарадзішчы каля Світы

*А. Чалею*

На гарадзішчы каля Світы,
Дзе бор спрадвечны сон вартуе,
Прыгожых кветак пах разліты —
Ён адурманьвае, чаруе.

І нараджае летуценні
Нязбытных мараў і жаданняў:
Яны плывуць, нібыта цені,
У край легендаў і паданняў.

Туды, дзе сонца вечна ззяе,
І неба поўнае блакіту,
І дзе жанчына маладая
Бяжыць з гары купацца ў Світу.

На хвалях колеры гуляюць
І выклікаюць спакушэнне.
…Шчаслівы той, каго кахаюць,
І той, каму Бог даў натхненне…

# Святая крыніца ў Вярхоўі

Папіўшы вады са Святое крыніцы,
Прысядзем на лаўку ля дуба старога
І будзем глядзець, як у дымцы імгліцца
Вячэрняе сонца над пыльнай дарогай.

І ціша абступіць нябачнай сцяною:
Ляском нерухомым ад спёкі асенняй,
Іржышчам зжаўцелым, і ржавай травою,
І дуба старога агромістым ценем.

Прашэпчам малітву — і раптам адчуем,
Што Бог дзесьці побач — адно азірнуцца,
Што мы не адны гэты дзень вечаруем,
Калі да святла нашы душы імкнуцца.

Вячэрняе сонца спаўзе на дарогу.
Вялізныя цені палезуць праз поле.
Сціскаць будзе цемра упарта аблогу,
Ды ўпэўнены мы, што не сцісне ніколі.

Бо гулка крыніца з-пад дуба ліецца...
Бо поле цяпла аддаваць не жадае...



У малітвах знаходзіць палёгку душа.
Слова сілай сваёй адганяе бяду.
Свет лагодзіць і песціць святая імша,
І па свеце нас чыстыя думкі вядуць.

Ёсць у Бога адзіны для ўсіх запавет:
Трэба верыць і несці любоў да людзей.
Адкрываючы сэрцы, ратуем мы свет
Для усіх, хто за намі
у вечнасць ідзе.



Не ўсе шляхі дазволена прайсці —
Свядомасці прастор абмежаваны.
Ў адказ на спробу ісціну знайсці
Зрывае хтосьці рэзка ўсе стоп-краны.

І душы патрапляюць у сіло
І б'юць адчайна крыламі да змогі.
Ды лёс такі.
І клетка — іх жытло.
Для новых думак — новыя дарогі.

Няма ні вечных кратаў, ні шляхоў.
Адбудзецца, чаму пара адбыцца.
З глыбінь касмічных і з вышынь вякоў
Ляціць святло, каб словамі праліцца.

# Малітва

Божа літасцівы, шчыры,
Памажы у час трывожны,
Адвядзі бяду і пошасць,
Абарону дай і сілу.

Быццам крыж, нясу пакуты,
Кожны дзень бяда чакае.
Хлебам-соллю сустракаюць
На шляхах жыццёвых Юды.

Прадаюць разоў па колькі
Кожны дзень мяне за грошы.
Божа! Літасцівы Божа!
Дай надзеі мне і волі.

Перад абразом укленчу:
Памажы у паняверцы,
Апусціся Святым Духам
На душу маю і сэрца…

Божа літасцівы, шчыры…
Да цябе маё маленне.
Бо канчаецца цярпенне —
Дай паверыць у сябе…



Дзева Марыя! Заступніца наша!
Не пакідай нас адных у журбе.
Хто, як не ты, Іісусу раскажа
Нашы малітвы к табе?
Сэрца адчыніць свае таямніцы,
Вусны прашэпчуць малітвы надзей:
Божа! Здароўя дай хворай дзяўчынцы!
Дзева Марыя! Нам душы сагрэй!



Ідуць халады з поўначы,
Марозу трашчаць аковы.
Ні злосці няма, ні роспачы,
А толькі малітвы словы:
«Нічога няма на свеце
Чысцейшага, чым каханне.
Нічога няма на свеце
Мацнейшага, чым маўчанне…»

# Разбурэнне кокана

Мой штучны саркафаг,
мой кокан з супернітак,
я дзякую табе
за цішу у агні,
за несустрэты жах,
неспапялёны сшытак,
за мары, у якіх
так многа вышыні.

Але прыйшла пара —
і трэск шаўковых нітак
напомніў, што душа
ўжо мацае крыло.
Пунсовая зара
і сонца новы злітак
засведчаць: новы Дух
паклікала святло.



Папрасі ты ў неба зорку —
хай сусвет яе адпусціць
заляцець у тваю хату,
запаліць табе святло.

Папрасі ты ў неба сонца
для душы сваёй халоднай,
каб знайшла яна нарэшце
у бязмежжы цеплыню.

Папрасі ты ў неба вечнасць,
каб займець сабе бясконцасць,
каб убачыць край Сусвету
і сканчэнне ўсіх часоў.

Папрасі ты ў неба Бога,
каб было каму маліцца,
каб ён мог цябе суцешыць
у бясконцасці тваёй.

…А калі ўсё надакучыць —
папрасіся сам на неба.



Нядзеля будзе — зноў пайду я ў храм,
Каб да любові Божай далучыцца,
За гэты свет, што маю, памаліцца —
Святы і грэшны — каля райскіх брам.

Якое шчасце — бачыць зор святло!
Якая радасць — піць ваду з крыніцы!
Падумаеш: няўжо ўсё гэта сніцца?
Няўжо ўсё гэта раптам стане тлом?..

Не верыцца, што можна не паспець
Агонь начны дапіць у пацалунках,
Што краявід, расквечаны ў малюнках,
Аднойчы стане блякнуць і мярцвець.

І калі роспач часам наплыве
І пацямнее ясная прастора,
Мяне ўратуюць ціша і пакора.
Са мною Бог — ён ува мне жыве…



З прасторы зорнае нябёс
Ідзе да нас Ісус Хрыстос.

Ліецца дзіўнае святло,
Гарыць агонь і гіне тло.

І з тых, даўно забытых слоў
Я ўспамінаю: «Бог — любоў»!

Пра гэта трэба гаварыць.
Я жыў! Жыву! Я буду жыць!

Гасподзь даруе мне ізноў
Адзіны свой пароль — любоў.

А мне ісці праз гэты свет,
Нясці яго, як запавет.

І крыж нясці праз шлях зямны
Туды, дзе вечна б'юць званы.

Адтуль скрозь зорны дах нябёс
Ідзе да нас Ісус Хрыстос.

# Даруй

Даруй мне, Божа, цяжкія грахі,
Маю пакору сілам дзікім, чорным.
Мой шлях жыццёвы штучныя багі
Рабілі пакручастым, непраторным.

Халодны бляск спакуснага агню
Прымаў я часта за агонь сапраўдны.
І словаў мудрагелістых хлусню
Лічыў за ісціну, прымаў як праўду.

Даруй мне, Божа, што я быў сляпым
І бачыў тое, што хацеў пабачыць.
І вось нарэшце стаў пагляд пустым —
Падманны бляск нічога ўжо не значыць.

Прыйшла пара. Ачысціцца хачу.
Хачу сарваць з пластоў душы і цела
Нарывы чорныя і сетку уваччу:
Хай пабаліць, каб болей не балела.



Каторы раз на поле белы снег
Зляцеў з нябёс і свет змяніў адразу.
Няхай ён гулка капае са стрэх —
Прыйшла зусім другая мера часу.
— Ўсё белае ад Бога! Будзем жыць!
Не холадна ад снегу, не трывожна.
Ці не таму і мне імгненнем кожным
Так хочацца вось гэты свет любіць?..



Да нас будзь літасцівы, Божа,
Не пазбаўляй нас ласкі светлай,
Дай жыць свабодна і прыгожа
Ў тваёй краіне запаветнай.

За кожны дзень, пражыты ў шчасці,
Табе аддзячым думкай чыстай.
Ты зведаць даў вулканы страсці
І роспач ростані імглістай.

Ты райскі бераг даў пабачыць,
Адчуць пачуццяў безназоўнасць.
Ты змог сусвет пераіначыць,
Адкрыць наноў яго цудоўнасць.

Табой уладжаны сустрэчы,
Табой падораны расстанні,
Каб, можа, думалі аб вечным
І каб святлелі мы ў чаканні.

Да нас будзь літасцівы, Божа.
Даруй спагадаю сваёю.
Мы вельмі хочам жыць прыгожа
З тваёй часцінкаю — душою…



Я малюнак запомніў
Сярод тысяч дарог:
Ззяе зорка на поўдні,
А над зоркаю — Бог.

І калі мне самотна
Ці туга наплыве, —
Мяне кліча свабода
У магічным святле.

Гэта чыстае ззянне,
Гэты жаркі напал, —
Пасылае каханне
І узрушання вал.

І душа распраўляе
Знову крылы свае,
Жаўруком узлятае
І ў нябёсах пяе.

...Ў небе ціха і чорна.
Жоўты крывіцца рог.
Дзе знаёмая зорка?
Дзе над зоркаю — Бог?



Светлым ранкам напярэдадні Каляд
Памаліцца я пайду у царкву,
Папрашу ў Бога радасных свят
Для людзей, з кім на планеце жыву.

А пад вечар буду есці куццю,
Добрым словам радню ўсю ўспамінаць.
За магчымасць усміхацца жыццю
Буду шчыра «дзякуй Богу» казаць...



Дасканаласць — духоўная нітка.
Яе цяжка намацаць у цемры.
Зноў у багне хтось лаецца брыдка
І цкуе на узнёсласць хімеры.

То калючы цярноўнік, то здані
Рвуць адзенне і цела крамсаюць.
І губляюцца ў цемры світанні,
І чужынцы ў абдымках сціскаюць.

Але компас — духоўная нітка.
І не скончыцца гэта дарога.
У мінулым — і дом, і калітка,
А наперадзе — пажыці Бога.



З чыстым сэрцам дарога
У каляднай начы, —
Ты малітву да Бога
Сярод зор прашапчы.

Сціхне вецер калючы,
Стане цемра цяплей, —
Толькі словам гаючым
Сваё сэрца сагрэй.

І лягчэй пойдуць ногі,
Вочы ўбачаць святло,
І адыдзе з дарогі
Напужанае зло.

Ты убачыш, як ружы
Пад снягамі цвітуць
І як сонца са сцюжных
Вырываецца пут.

Тваё сэрца адчуе
Незвычайны прастор —
Яно з Богам вандруе
Між галактык і зор.

Будзе чыстай дарога
У каляднай начы.
Ты малітву да Бога
Сярод зор прашапчы…



Не бывае на свеце адвечнае клеткі.
І ў пустэльні таксама распускаюцца кветкі.
Дзе прасыпаўся попел — там трава зелянее.
Небасхіл на усходзе так выразна яснее.

У зямлі узаранай абуджаецца зерне.
Неба нашу зямлю зноў да сонца паверне.
Літар чорных рады на паперы сатруцца
І ад промняў святла душы змогуць прачнуцца.

У хмызах некранутых — салаўіная песня.
Значыць, з цемры ізноў наша сонца ўваскрэсне.
Вочы бачаць ужо, як ламаюцца клеткі,
Як з-пад снегу да зор прабіваюцца кветкі.



Дух набірае вышыню…
Унізе — снежныя пагоркі,
Уверсе — промні яркай зоркі,
Навокал — цемра без агню.

І немагчыма зразумець,
Ці мо таму, што космас вабіць,
Ці мо таму, што цемра давіць,
Але жадае дух ляцець.

Насустрач сонечнаму дню
Праз цемры холад і трывогу
У гэту ноч (і дзякуй Богу!)
Дух набірае вышыню…



Пастаяў ля царквы
І падумаў пра Бога.
Пра жыццё, што у свет
Па законах біблейскіх плыве.
Розум дадзены мне,
Каб наблізіцца троху
Да тых ісцін, якіх
Не дазволена ўсё ж зразумець.

Назіраю жыццё
І мяняюся ў часе.
Я такі ж, як і ўсе
Жыхары на планеце Зямля.
Спадзяюся на тое,
Што ёсць катэгорыя «шчасце»
І што ў кнізе святой
Ёсць радок, дзе запісаны я…



Складана, напэўна, быць Богам —
Заводзіць гадзіннік Сусветаў,
Па пыльных касмічных дарогах
Вясці мастакоў і паэтаў.

Ствараць вакол сонцаў сістэмы,
Матэрыю думаць заставіць.
...Калі напішу я паэму,
Чыё мне імя там паставіць?



Замкнулася неба
на тысячу тысяч замкоў.
Душа пацяжэла —
палёт так нялёгка даецца.
Грахі не пускаюць
пакінуць заземлены схоў,
Грахі прымушаюць
ачысціць ад накіпу сэрца.

А часу так мала…
Заблытана сеткай жыцця
Стамлёнае цела
адчайна шукае дарогу.
І бачыцца марнасць
усіх намаганняў… Хаця
Шляхі ўсе зямныя
вядомыя Госпаду Богу…



Пайду паломнікам праз весі і вякі
Да тых мясцін, дзе светлы храм стаіць,
Каб зноў на сэрцы шчырасць адрадзіць,
Каб замаліць за ворагаў грахі.
І, можа, нехта «дзякуй» скажа мне.
А не — дык што? Якой такой бяды?
Хачу пакінуць добрыя сляды
На тым шляху, дзе Чалавек ідзе…

# Моцны ланцужок

На моцным прыгожым залатым ланцужку
Вісіць маленькі старэнькі крыжык.
На крыжыку тым — яшчэ драбнейшы Ісус Хрыстос.
Ён нікольки не змяніўся з часоў Галгофы.
Вось толькі крыж стаў лядачы, трухлявы…
Вось толькі ланцуг зрабілі мацнейшы…



Ён прыйдзе. Ён ужо ў дарозе.
Ягоны знак — пунсовая зара.
Сцюдзёным ветрам нам дыхнула восень,
Але за ёй ідзе паток цяпла.

Устань на досвітку. І перад абразамі
Сваю душу ачысці ад віны,
Бо той, каторы хутка будзе з намі,
Ўжо не даруе здрады і маны.

Вярнуць душы крынічную празрыстасць,
Каб быць бліжэй да ісцін і жыцця.
Вакольны свет — яшчэ не рэчаіснасць,
Ёсць свет вышэйшых сфер і пачуцця.

І лёс такі — ісці вышэй у сферы,
Туды, дзе знак — пунсовая зара.
ЁН прыйдзе. Пазаве.
Я ў гэта моцна веру.
Таму на ранку йду да алтара…



II

# Палац чароўнай птушкі



Усю ноч за акном цішыня —
Там пануе суцэльны спакой.
У бясконцых касмічных палях
Зоркі лёгка плывуць...
І са мной
У пакоі, дзе лямпа гарыць
І гадзіннік адлічвае час,
Ёсць жаданне вялікае — жыць
Гарманічным святлом...

Яшчэ б раз
Прадзяўбсці шкарлупу ад яйка,
Пылюком зноў убачыць святло,
Ці адчуць, як вясною рака
Нясе трэскай у мора…
Сцякло
Шмат вады ад сцюдзёных крыніц,
Што вярнуліся зноўку дажджом.
…Ад напоўненых кніжных паліц
Пахне мёдам жыцця…
Толькі сном
Выдаецца далёкая смерць.
І у час, калі зорка ляціць
Я так прагна хачу зразумець
Чаму гэтак жадаецца жыць…



У вячэрнім тумане
не бачна ні зоркі, ні знічкі, —
Ўсё лягло спачываць
і чакае наступнага дню,
Ды не спяць светлячкі
каля ціхай халоднай крынічкі,
Пэўна, лёс іх такі —
быць у цемры заменай агню.

Мо і наш такі лёс —
ліць святло у часіну змяркання
І нячутным цяплом
сэрцы хворых людзей саграваць…
А калі на зямлю нашу
прыйдзе нарэшце світанне,
Людзі зноў ажывуць,
ну а мы пойдзем ціхенька спаць…



Ліпень…
І бачна, як дзень карацее,
і як спялеюць сады,
і як туман
поле росамі сее —
зернем асенняй вады.

Ліпень…
І ціха лісцінка з бярозы
ляжа у лесе на мох.
Пётра сівы
скубе дрэвы за косы —
чуецца плач ля дарог.

Ліпень…
І дзіўна, што папараць-кветка
зноў без мяне адцвіла.
Мара — ўсяго толькі статуэтка
без розуму і цяпла.

Ліпень…
І сняцца далёкія сонцы.
Але — кароткія сны…

Ды, дзякуй Богу,
Што ёсць бясконцасць,
І ў гэтай бясконцасці —
мы !



Сонечны прамень апошні
вінавата крануў пожні
і па медных трубах соснаў
падымацца стаў на неба.
І падумаў я: «Навошта
на блакіт нябеснай плошчы
наплывае чорны колер
і фарбуе дзень у ноч?»
…Я хачу маліцца… Божа,
цёплых рук тваіх раскоша
хай ніколі не пакіне
майго сэрца і душы!
І назаўтра чыстым раннем
дай убачыць мне світанне
і пачуць у светлым гаі
звонкіх птушак галасы.
Дай парваць мне ночы путы,
і, пражыўшы дзень наступны,
назіраць прамень апошні
на кары крывой сасны…



Заіграла труба на закаце,
Закружыўся лісток ля бярозы.
Цішыня ў сутоненай хаце
Белай коткай сядзіць на парозе.

І глядзіць на агонь, што у печы
Весяліцца і скача ігрыста,
А за хатай у сцішанай рэчцы
Сонца зліткам блішчыць прамяністым.

Цішыня цішыню напаткала,
І абедзве маўчаць у бяседзе.
Вось і сонца ў рэчцы не стала…
Вось і печка ў цемры растала…
Цішыня засталася на свеце…



Хай нам вечар раскажа,
што раніцай будзе
на гэтай зямлі.

І што стане з дарогай,
якую мы сёння
упарта прайшлі.

І што будзе з травою,
што сталася ложкам
для стомленых целаў.

Што стане з душою,
што ў ноч паляціць
да нябёсаў…

# Маўчанне

Маўчанне перуна
у подыху навальніцы,
Маўчанне валуна
у выспяваючым жыце,
Вулканаў маўчанне
перад узрывам,
Маўчанне ракі
перад абрывам,
Песні маўчанне
перад застоллем,
Маўчанне паэта
ў канцы няволі,
Маўчанне травы,
схаванай садам,
Маўчанне Хрыста
перад Пілатам.



У космасе бяздонным
існаванне
фізічнай абалонкі
ёсць імгненне,
якое пакідае
ці каханне,
ці радасць,
ці трывогу,
ці здзіўленне…

У шчыльнасці касмічнай
нашы думкі
жывуць, як пчолы
ў сотах на вашчыне,
і час, што мае
уласцівасць гумкі,
іх вобраз лепіць
на планетнай гліне.

І кожнаму сваё
у гэтым свеце
пчаляр узважыць
цёплаю рукою.

I стане гліна —
толькі зорным смеццем.
I стане думка —
новаю Зямлёю.

# Раніцай

Раніцай
расцеш
у садзе.
Распускаеш галіны
і карэнне.
Марыш:
усё,
паўсюль,
заўсёды.

Вечарам
дрэмлеш
у полі.
Падаюць галіны,
сохнуць карані.
Разумееш:
нічога,
нідзе,
ніколі…



У вячэрнім палоне святла,
што ляціць
праз стагоддзі халодных
касмічных эпох
на Зямлю,
дзе нам выпала лёсам
пражыць, —
дзіўным водарам пахне
квяцісты мурог.

Кропля кожная мае
каштоўнасць сваю,
як і зорка,
што ціха плыве
праз туман, —
і Зямля — быццам шар,
а стаіш — на краі:
над табой і ў табе
незямны акіян.



Памірае агонь,
і знікае святло.
Наваколле наўсцяж
апаноўвае змрок.
Што было ў гэты дзень,
тое ў вечнасць сышло.
Ды і сам я чарговы
зрабіў туды крок.
Там, напэўна, няма
вось такой мітусні,
Як у нас у жыцці
пры няпэўным святле.
Мы не можам злавіць
прамільгнулыя дні.
Мы і самі мільгаем
на сонечным тле.
Толькі космас спакойна
глядзіць на Зямлю,
Толькі зоркам вядома
таемнасць жыцця.
…Я журботныя думкі
у цемру ганю,
Бо паверыць хачу
у бясконцы працяг…



Калі заснула цішыня
І зорка першая саспела,
Душа у вырай паляцела
На крылах спаленага дня.

Яе так вабіць хараство
І прыгажосці асалода!
Памкненняў боская прырода
Знаходзіць з вечнасцю раство.

Як пахнуць райскія сады!
І як асветлена прастора!
...За бунтам ціха йдзе пакора
І праглынае ўсе сляды...



Сонечны промень стаў часткай святла.
Кропля дажджу стала часткай вады.
Дровы ў печцы згараюць датла.
Кім застанешся ў вечнасці ты?

Атам жалеза стварае метал.
Подых марозу малюе узор.
Голас гучыць — і мы чуем харал.
Бліскае знічка — палае касцёр.

Выгляне сонца — і ўбачыш святло.
Сэрца адкрыеш — спасцігнеш сусвет.
Камень хай падае гулка на дно…
Думка хай вольна ўзлятае у свет…



Навошта рамонку пялёсткі?
Гайдае іх стомлены вецер,
Нібы непатрэбнае смецце,
Ля кожнае нашае вёскі…

Навошта гайдае іх вецер,
Як быццам на хвалях калыша,
І дзіўна спакойная ціша
Павольна ляціць у сусвеце?..

Навошта і смецце, і вёскі,
І людзі, што п’янствуюць святы?
Навошта ля самае хаты
З рамонкаў злятаюць пялёсткі?…



У тым часе, якога няма,
Мы чамусьці жывём.
Мы кудысьці ідзём.

Мо і нас ужо проста няма,
І наш свет і жыццё —
Уяўленне?
Можа, мы мітусімся дарма? —
Навакол не відаць паўтарэння…

Летуценні сілкуюць душу,
Не даюць ёй аб камень разбіцца.
Як і ўсе, я люблю і грашу,
І стараюся шчыра маліцца

У тым часе, якога няма…



У дымцы сонца зіхаціцца,
Ў вадзе люструюцца агні.
Адно жаданне — растварыцца
у цішыні.

І пыл асядзе на дарогу,
І пачарнее сон вады.
Мы не растворымся... Мы пойдзем.
Куды?

Жыццё запомніцца імгненнем:
Бязважкі пыл... Азёрны сон...
І дотык перад растварэннем —
узлёт ці скон?

У дымцы сонейка і космас.
Яны — далёка ад зямлі.
І чыйсьці растварыўся голас
у цішыні...



Асенніх дзён маўклівая туманнасць…
На бляклых кветках — пасмы павуцін,
А у душы клубок — туга і радасць,
І лёгкі сум як быццам без прычын.

І як філосаф, мудры разуменнем
Прычын і следстваў, дзеянняў і спраў,
Чакаць не здольны галавакружэння,
Бо прамінуў час баляў і забаў.

Цішэе кроў і прызямляе думкі.
Будзённы тлум і глупства навакол.
Жыццю пара збіраць свае пакункі —
Высока неба.
І так блізка дол…



Жыццё — саломінка,
што кінута у вір
закручаных спіраляў
галактычных,
дзе напрасткі
не правядзеш пункцір,
дзе век распісаны
у бібліях кармічных.
Начныя вочы
зоркавым дажджом
жыццё вырошчваюць
у парніках планеты.
Буяе рунь —
мы быццам бы жывём,
запісаныя
ў кнігах запаветных.
Старонкі космасу
гартае ціха час,
Пераўтвараецца
мінулае у Вечнасць.
…Усходзіць сонца
у чарговы раз.
Камусьці сёння
яно стане свечкай…

# Касмапаліт

Адкрываеш
ужо адкрытую планету.
Здзіўляешся
фантазіі прыроды.
Туляешся,
няведамы, па свету
без веры,
без душы
і без народа.

Касмапаліт,
паўсюль табе прытулак:
у скрыні,
што ўжо выкінулі ў смецце.
Варголы
заядаеш пахам булак
і радуешся,
што жывеш
на свеце…

# Палац чароўнай птушкі

*І. Атрахімовічу, мастаку*

Ёсць на свеце чароўная птушка,
Што жыве за аблокамі мрояў
У прыгожым высокім палацы,
Дзе і сцены, і столь — летуценне.
Залатыя агні
Там гарaць у шыкоўных пакоях,
І матывам шчымлівым
Ляціць на зямлю запрашэнне.

Ды запрошаных шмат,
Але выбраных толькі адзінкі.
Тых, хто здольны пачуць
І хто здольны убачыць агні.
Тых, хто можа сабраць
У прыгоршчы свае залацінкі
І хто можа парваць
Прыцягненне звышшчыльнай зямлі.

Быць на балі ў палацы
І бачыць чароўную птушку —
Асалода, з якой
Параўнаецца хіба жыццё.

Гэта як у спякоту
Дажджы выцалоўваюць сушу.
Гэта як праз каменне
Стралою ляціць пачуццё.

У вяртанні назад
Ёсць на новы узлёт спадзяванне,
Бо святло у душы,
І агонь у руках залаты.
А птушыным пяром
Верш напіша паэт пра каханне,
І у фарбах мастак
Нам раскажа пра рай незямны.

# Пасля лазні

Пасля лазні,
прыгожы і чысты,
Размякчэлы
бярозавым духам,
Як на свяце якім
урачыстым
Будзеш музыку
ціхую слухаць.

І у нотах
і фарбах чароўных
Над Сусветам
ляцець летуценнем.
Да краёў
неабсяжнасцю поўны
І шчаслівы
адзіным
імгненнем.



Памаўчым на парозе планеты,
Вып’ем келіх касмічнага рому.
За Плутон адлятаюць каметы —
З гасцявання імкнуцца дадому.

Што за шчасце — пагрэцца на сонцы!
Што за радасць — купацца у промнях!
Толькі жаль, гэта ўсё не бясконца…
Гэта ўсё — як пясок на далонях.

Паглядзім вочы ў вочы прасторы.
Памаўчым на парозе планеты.
Мо і мы ўжо адправімся скора
За Плутон, дзе знікаюць каметы



Давай жа, дружа, келіхі падымем
За гэты свет, ў якім і мы жывём,
За гэты свет, што вабіць небам сінім
І чорнай фарбай пэцкае штогод.

За гэты свет, дзе многія нас любяць,
Ці дзесьці побач, ці ў далечыні.
За гэты свет, дзе многія нас губяць
Атрутай здрады, звады і хлусні.

За гэты свет, які маглі б праклясці,
Але ў сусвеце дзе ён, іншы свет?
Таму прымаем кожны дзень як шчасце,
Як добры фотаздымак ці санет.

Таму глытаем поўнымі глыткамі
Салодкі смак імклівага жыцця
І захапляемся пажоўклымі лістамі
У нератах азёрнага трысця.

Таму і любім гэты свет няўлоўны,
Дзе ранак заўтрашні ў цямрэчы не відаць.
Таму і лічым гэты свет цудоўным,
Бо тут ёсць шанц і жыць, і сябраваць.



Паміраюць ад холаду у душы,
Паміраюць ад адзіноты.
Калі сэрца ідзе па самай мяжы
Загіпсованасці і свабоды.

А памежжа вастрэйшае, чым лязо,
За скальпель яно танейшае.
І на гэтай мяжы — труна і пясок,
І горачка надта свежая.

Сэрца збівае ўласны рытм, —
Яно ўжо дрыжыць ад холаду.
На гулкую роўнядзь магільных пліт
Сыплецца
душы маёй
золата…



Надзея загіне апошняй.
Пакуль яна ёсць — трэба жыць.
Ісці праз туманы і пожні
Туды, дзе заранка гарыць.

І гэтая вера суцешыць
У дзень, калі чорны каршун
Крылом сваім неба разрэжа
І ў сэрца патрапіць пярун.

І ў ноч, калі ясныя зоры
Замажуцца фарбай густой,
Душа адшукае апору,
Праз ноч павядзе за сабой.

Але, як і вера прыгнецца
Пад націскам юшных вятроў,
Надзея трымаць будзе сэрца —
«Яшчэ не астуджана кроў…»

І можна ісці цераз пожні
Туды, дзе заранка гарыць.
Надзея знікае апошняй.
Пакуль яна ёсць — трэба жыць!



Ну і добра, што пайшлі дажджы…
Ну і добра, што навокал гразка…
У даўгім абветраным плашчы
Мне жыццё усё адно як казка.

Хай ліюцца кроплі за каўнер
І ў пантофлях плюхкае вадзіца, —
Я шчаслівы пад дажджом цяпер,
Потым гэта зноў ці паўтарыцца?

Хтосьці скажа ясна: «Ашалеў!»
А другі дадасць: «Ды ён — дурніца!»
…А я проста моцна жыць хацеў,
І хацеў вады з нябёс напіцца…



Сэрцу хочацца цішыні.
Сэрца цешыцца адзінотай.
Нібыта яно на самым краі
Апошняй пары года.

Размазала сонца чырвоны цвет
Па шклянцы зары вячэрняй.
Восень, аддай свой апошні букет
Той, што была нявернай.

Не ўскалыхнуць успаміны кроў,
І сэрца спакоем б'ецца.
А нехта казаў: «Гэта — любоў…»
Учора казаў, а сёння смяецца.

Ды што з таго смеху? Я вечар п'ю.
Я цешуся адзінотай.
Чарговы раз на краі стаю
Апошняй пары года.

# Тры мудрацы

Тры мудрацы ўзышлі на гару
І пачалі гаварыць.
Першы сказаў: « Я вось гэту гару
Раўнінаю мог бы зрабіць».

Другі падтрымаў: «На раўніне тваёй
Я горад вялікі б стварыў,
Каб просты народ гаманлівай сям'ёй
Шчасліва і радасна жыў».

А трэці сказаў: «Я народу б вярнуў
І памяць, і розум, і смех…»

Няма мудрацоў.
Ну а тую гару
Засыпаў даўно
                белы снег…



Двое глядзелі на зорнае неба.
Першы сказаў: «Нас ахутала цемра.
Неба падобна на прорву без дна.
Мы ужо гінем. Нас душыць бяда.
Нам не адбіцца ад хцівых лап.
Чорная стужка… У роце — кляп…»

Другі адказаў: «Я не веру хлусні!
Бачу святло! Усё неба ў агні!
Свабода і Воля сыходзяць да нас —
О светлы, о дзіўны, о велічны час!
Не смей больш пра цемру і зло гаварыць,
Пакуль хоць адна ў небе зорка гарыць!»

Двое глядзелі на зорнае неба.
Адзін казаў: «Зоры».
Другі казаў: «Цемра».

# Чараўнік

Вы разумная вельмі жанчына,
Увогуле, як і ўсе ў XXI стагоддзі.
Вы ведаеце шмат дзіўных рэчаў
І можаце растлумачыць іх па навуцы так,
Што не застаецца ні дзівос,
Ні чараў, ні тайны.

Вы з цікаўнасцю і недаверам, нават падазрона
Гледзіце на яго.
Вы першы раз сустракаеце такога чалавека.
Ён верыць у ведзьмакоў і вударлакаў,
У магію чорную і белую.
Ён і сам трохі чараўнік.

Вы ведаеце, што ён можа лётаць,
Можа зрабіць дрэннага чалавека добрым.
Што можа ноччу купальскай
Гойсаць з хеўрай па гарадах і весях,
Пацяшацца забавамі і жартамі,
Смяяцца з людзей і несці людзям весялосць.

Вы ведаеце, што ён разумее
Песні вятроў і голас травы,
Душу возера і трывогу кані.

І таму Вам цікава і троху няўтульна:
Вы баіцеся страціць
Увесь Ваш бліскучы розум,
Сутыкнуўшыся з загадкамі і таямніцамі
Чараўніка.

# Квазімода

Я — Квазімода.
Нямое, глухое стварэнне.
Выпадкам лёсу
Узняты пад дах купалоў.
Там я жыву
На апошніх мастках сутарэння.
Б’ю у званы
І галодных кармлю галубоў.

Укрыжаваны
На межах Зямлі і Сусвету.
Зоркі лаўлю
І ў чаканні ўглядаюся ўніз.
Хто там ідзе?
Хто спявае?…
Пустое паветра…
І у паветры
Танцуе апалены ліст.

Я сляпы і глухі.
Маю выгляд і страшны і жорсткі.
Гэта мною бацькі
Сваіх чысценькіх страшаць дзяцей.

Але хто з іх калі
Ці заўважыў вачэй маіх слёзы?
І ці плакаў хоць раз
Ад садызму прыгожых людзей?

Я — Квазімода!
Глухое, сляпое стварэнне.
Плюйце ў мяне,
Калі зможаце знізу дастаць.
Свет дабрыні
Галубы і званы людзям вернуць.
Я кармлю галубоў,
Каб у сэрцы цяпло захаваць…

# Чорны верш

Чорнае сонца ў чорны дзень
падае, нібы ў твань.
У колеры чорным кожны з людзей
ператвараецца ў здань.
Хочаш не хочаш, мусіш адпіць
чорны свой дзень да дна,
Можаш ляжаць, можаш хадзіць,
а ўсюды фарба адна.

У горадзе чорным, дзе сонца чарней,
чым самы страшны чорт,
Можна сустрэць нечаканых гасцей
з думкамі наадварот.
І яны скажуць, што ясны дзень
і льецца з нябёс святло,
А ты ж бачыш толькі чорны цень
і чорнае-чорнае тло.

# Вандалы

Калі
З ружаў злятаюць пялёсткі на дол,
І надрыўна гучаць харалы,
І новы важак узлазіць на стол,
То значыць, ідуць вандалы.

Позна хаваць па глухіх кутках
Кніжку, абраз, гітару.
Да Музы ў кватэру падселяць Жах,
На Сонца нагоняць Хмару.

А на пачуцці накінуць аброць,
Душу завядуць у стойла.
Служка прыматаў — няўтольная Плоць
Для нас прыгатуе пойла.

І будзе нямыты вандал глядзець,
Як мы будзем жраць атруту,
Як станем не нашыя песні мычэць,
Як будзем дзічэць ад бруду.

…Сабака на неба з тугой глядзіць.
Там поўня крывавай стала.

Можа, і мне ў сусвет завыць,
Бо роспач?
Ідуць вандалы…

# III



# «Пагавары са мной на мове...»



Я ціха каля Нарачы малюся.
Глытаюць мае шэпты туманы.
Спагады я прашу для Беларусі
У сіл вышэйшых міру і вайны.

Ліловы змрок струменіцца з нізіны,
А я шапчу і веру: сапраўды
Мой голас адганяе ад краіны
Непамыслоты здані і бяды.

Хай усміхнецца, хто не разумее,
Бо жыць прасцей за дальняю гарой.
Тысячагоддзяў том усё таўсцее,
Ды ўсё танее кніжка прада мной.

...Я ціха каля Нарачы малюся,
І словы праз туман плывуць, плывуць...
Дай, Божа, літасці — прашу — для Беларусі,
Свабоды дай напоўніцу уздыхнуць...



На Баторыне туман ды туман,
Трыснягі вядуць размову з вадой.
І, здаецца, недзе грае арган,
Гэтак грае, нібы плача слязой.

Можа, ў мядзельскім касцёле імша?
Можа, проста лёгкі ветрык гуліць?
Ну, а можа, з сэрца злазіць іржа,
І таму яно так шчыміць-баліць?

Што я ведаю пра свой родны край,
І чаму мяне так цягне сюды?
Мо таму, што ён падобны на рай
У адзінстве лесу, зор і вады.

Тут лагодна лісты шапацяць,
Добрых людзей тут болей, чым дзе.
З імі можна нашы песні спяваць
За чаркай седзячы ў грамадзе…

Як бярэ за сэрца дзівосны арган!
І стаіш тады нібы сам не свой.
На Баторыне туман ды туман —
На вачах асядае слязой…

# Восень у Шыкавічах

У Шыкавічах гола і няўтульна…
Бляе авечкай вецер у галлі,
І поўніцца тугою ўсеагульнай
І неба шэрае, і крыга на раллі.

Я зразумець не здолею, напэўна,
Чаму так сэрца шчыміць і чаму
З глыбокай даўніны гучаць напеўна
Малітвы продка за «радную старану».

На мокрым плоце кроплі, нібы ноты, —
Гэта яны спяваюць успамін.
Само жыццё — спрадвечныя турботы —
У дырыжорскім гойданні галін.

Па-сутнасці, усё ўжо тут знаёма.
Да дочак рушыла чаканне навіны.
Я на радзіме, дзякуй Богу, дома.
Узыдзе сонца тут.
Пасля зімы.

# У час дубоў

Па нотах зладжана іграюць крумкачы,
Вароны каркаюць наўкол задавалёна.
Маўчы, салоўка, слухай і маўчы,
Пакуль гучыць сімфонія шалёна.

У час дубоў заўжды спраўляюць баль
Ці зграя воўчая, ці статак барановы,
Пад спевы крумкачоў звініць крышталь
І чуюцца лісіныя прамовы.

І воўчы рык ляціць з кутка ў куток:
«Эй, вы, да зграі ўсе! Хутчэй да зграі!»
На гэты кліч празрысты матылёк
Святло лампаднае кідае ў адчаі.

….Я газы падліваю у агонь…
Святло! Святло павінна жыць на свеце!
Давай, салоўка, памаўчым з табой,
Бо гнёзды варання
ўжо толькі смецце…

# Пугач

Лён пачарнелы у бабках стаяў.
«У-ух!» — далятала з далёкага лесу, —
Крыкам пугач зноў варожа пачаў
Адвячэрнюю месу.

Месяц крывы ўхмыляўся санліва.
«У-ух!» — закрычаў і на месяц пугач.
Дзіка паўсюль стала. Ціха. Паныла.
Змоўк нават драч.

І зазвінела затоена ціша,
Шолах пяшчотны залёг у траву.
...Чорны пугач арабіну калыша,
Ах, як задраў галаву!

«У-ух!»



...Возера чыстай вады...
А навокал — балота і твань.
Там губляюцца нашы сляды,
Там ізноў усміхаецца здань.

Нам да возера чыстай вады
Не ўдалося, засмяглым, дайсці.
Зноў нап'ёмся балотнай бурды
І заснём на счарнелым трысці.

Нам прысніцца азёрная гладзь
І крыніцы, што жывяць ваду.
Недзе лебедзі будуць крычаць
Пра агульную нашу бяду.

Мы прачнёмся і рушым ізноў
Напрасткі праз балота і твань,
І ў нару пад навалам карчоў
Захаваецца спуджана здань...



Публічная плошча.
Дзяўчына смяецца.
Ці мо з весялосці?
Ці мо прадаецца?

Публічныя словы.
І новы аратар.
Ён праўду гаворыць?
Ці ён — правакатар?

Публічная дзея.
Калона пад сцягам.
Балванка са сталі?
Ці ржавая бляха?

Публічны начальнік.
Рэжымнае права.
Хто з імі — налева,
Хто з намі — направа.

Публічная плошча…
Маўчаць ці паснулі?
Лімонкі саспелі —
Саспеюць і дулі…



Мой блізкі чалавек,
Глядзі:
Гарыць у цемры свечка
Для тых,
Што па жыцці
Ідуць у вечнасць.

Ратуе іх ад слепаты
Узнёсласць,
Знішчае стому ад слаты
Начная зорнасць,
Ім Арыядна дорыць шлях —
Клубок прароцтваў.
Яны ідуць. Ідуць ад нас,
Ад адзіноцтва.

Бо адзіноцтва — гэта мы,
А з імі — вечнасць.
Мы зачыняемся. Дамы —
Як апраметнасць.
Нас напужала ўжо святло
Ад свечкі,
Нам лепш утульнае цяпло
Ля печкі…

Мой блізкі чалавек,
Глядзі!
Ідуць жа людзі…
Ужо знікаюць.
Што ў жыцці
Тут з намі будзе?

# Ноч у Паставах

*Песня*

Медная цэгла касцёла
Цьмяна блішчыць на вадзе,
Залатакрылым анёлам
Месяц па небе плыве.
Ціхія сосны Гарбаркі
Нешта шапочуць скрозь сон —
Можа, пра танцы і сваркі,
Можа, пра шведскі палон.

*Прыпеў:*

Горад мой!
Горад мой!
Горад над Мядзелкай-ракой.
Ціха жыве,
Лёгка плыве
У дваццаць першы век!

У возеры светлыя зоры
Срэбнай луской зіхацяць.
Воран — вялікі і чорны —
Вылецеў іх паляваць.

Ноч набірае ўладу,
Робіцца цемра глыбей.
Зачараваныя хаты
Бліскаюць жоўцю вачэй.

Рэхам вада каля млына
Вечную песню пяе, —
Як па каханню дзяўчына
Чыстыя слёзы ліе.

Хіляцца вербы над ставам,
Мокне трава ў расе.
Сны залатыя Паставам
Зорнае ззянне нясе.

# Цымбалы

*А. Собалю*

Як зайграюць цымбалы,
То душа адгукнецца
Не да грошай і славы,
А да шчырага сэрца.

Да сяброў і каханых
Нашы душы памкнуцца —
З намі плачуць цымбалы,
З намі разам смяюцца

А зайграюць «Мікіту»,
Ці то польку «на крэсах», —
«Лапці» хочацца скінуць
І скакаць з падкіндэсам.

Вось жа скокі дык скокі,
Калі нашы іграюць:
Тут ні горад, ні вёскі
Ланцугі не стрымаюць.

А як сцішацца гукі,
Паплывуць задуменна,

Западзе ў нашы думкі
Беларуская тэма.

Беларускія песні
Замаркоцяць шчымліва…
Мы яшчэ уваскрэснем…
Мы — народ церпялівы…

Дык зайграйце ж, цымбалы!
Хай душа адгукнецца
Не да грошай і славы,
А да шчырага сэрца!

# Вёска над возерам

Вёска над возерам.
Сонца ў вадзе
І ў вокнах ссівелых хат.
Марудна з мінулага
Час паўзе.
Здаецца — ідзе назад.

Бо менее комінаў
Паміж дрэў.
І дзікай травы зашмат.
Бусел і той
У нябыт зляцеў.
Ціха дзічэе сад.

Ах, як прыгожа!
І можна жыць…
Ды хіба ж тут ёсць жыццё?
Хто і каго
Будзе тут любіць?
Травы? Быллё? Асцё?

Сонца ў вокнах,
А вёска — ў вадзе.
Не скалыхнецца гладзь.

Час так марудна
Ідзе? Паўзе?
Хаты салодка спяць…

# Акопы Першай сусветнай

Першай сусветнай акопы.
Жалезабетон... Бліндажы...
У самым цэнтры Еўропы
Ля азіяцкай мяжы.

Целы даўно спарахнелі,
Душы зляцелі ў рай.
Ці ж вы кахаць не хацелі?
Ці ж не любілі свой край?

Белыя пліты з крыжамі —
Вось толькі след на зямлі.
Дзеля чаго забівалі,
На дрот калючы ішлі?

...Мокрыя травы ў акопах
Ці ад дажджоў, ці ад рос...
Ты разумнееш, Еўропа,
Пасля праплаканых слёз...

# Возера Дзеўе

Возера Дзеўе.
Вячэрні туман…
Качак імклівы лёт.
Дзе рэчаіснасць?
А дзе падман?
Неба — на гладзі вод.

На гарадзішчы
Спрадвечны сон —
Вечнасць застыла тут.
З даўніх часоў
Векавечны звон
Льецца з каменных груд.

Змыты дажджамі
Культурны слой
Археалагічных рун.
І забыццё,
Як вечны спакой,
Блудзіць па выспах дзюн.

Возера Дзеўе…
Вячэрні туман…
Часу няўмольны ход.

Што — рэчаіснасць?
А што — падман?
Праўда — у нетры вод…

# На Дзяды

На Дзяды хадзілі на магільнік,
Папраўлялі крыху агароджы,
Пасыпалі жоўценькі пясочак
На грудок на дзедавай магіле.

І галовы долу ўсе хілілі,
Ўспамінала бабка аб мінулым.
Шапацелі сосны вечным гулам
І у неба плакалі… Малілі…

Беларускі род наш не загіне.
У маўчанні мужным і спакойным
Праўнукі і ўнукі, быццам воі,
Прысягалі ў вернасці Айчыне.

Не пайсці у іншыя краіны,
Не шукаць у дальніх межах долі —
Там жыццё, дзе бацька сеяў поле,
Дзе дзяды прайшлі свой шлях адзіны.

Немагчыма нам пайсці па свеце
І пакінуць продкаў у нябыце,
Пакуль ёсць зярняты ў нашым жыце,
Пакуль плача,
ў соснах плача вецер.

# Шыкавічы

Мяняецца вёска…
                    Пацiху, патроху
Сыходзяць на могілкі родныя людзі.
Іх чыстыя душы вяртаюцца Богу —
Яны нас і там, па-за межамі, любяць.

Вясковыя хаты стаяць успамінам
Пра свята дзяцінства у сонечных летах.
На выгане пахне гаркавым палынам,
Плыве над Баторынам восеньскі ветах.

Паболела дач. Зноў і зноў іншамаркі
Вязуць са сталіцы людзей нетутэйшых.
Сучасныя гмахі будуюцца шпарка
Паводле праектаў і планаў навейшых.

А словы і назвы мясцовых ваколіц
Таксама да могілак сходзяцца ціха,
Бо мова чужая душы не патоліць,
А родная тае апошняю крыгай.

Пабачыш знаёмыя хаты і тоні,
Успомніцца дзедава, бабіна слова,
Нібыта са мной яны зноўку гамоняць
Найлепшаю нашаю роднаю мовай.

І сціснецца сэрца, Бо ўсё — незваротна.
Заўважна і хутка мяняецца вёска.
…Восеньскі вечар. Ветах. Вільготна.
Чуецца з возера вёсельны плёскат…

# Ля Страчы

У лініях градуснай сеткі
Віруе жыццё, нібы Страча,
Часцей абсыпаюцца кветкі,
Радзей усміхаецца ўдача.

Магнітныя буры на сонцы
Збіваюць павераны компас.
І пеклам здаецца бясконцасць,
І ў шэптах губляецца голас.

Мігценне хвілін і стагоддзяў,
Мільганне падзей і здарэнняў
Усю філасофію зводзяць
Да азбукі пераўтварэнняў.

Спыніцца — стаць глыбай каменнай.
Імкнуцца — быць воскам у свечцы.
Жыццё летуценным імгненнем
Мільгае, як плыні у рэчцы…



*М. Багдановічу*

Калі сышло
Сем тысяч год ад утварэння свету,
Хрыстос ізноў спусціўся на зямлю.
Быў ясны дзень. Цяпло дарыла лета.
І ногі чулі мяккую раллю.

А побач з ім па той зямлі прыветнай
У белым кужалі ішлі паміж хлябоў
Святыя Пётра з Юрам непрыкметна,
Здзіўляючыся працы жнеяроў.

А людзі гнулі спіны на палетках,
Снапы раслі, як булкі на дражджах.
Ніхто і не заўважыў белых сведкаў,
Бо кожны збожжа бачыў у вачах.

І быў адзін музыка без работы.
Вось ён заўважыў тройцу, падышоў.
«Даруй мне, Божа. Сёння дзень заботны,
А я не ўзяў ні кос і ні сярпоў.

Мне сорамна: вось гэтай простай працы
Рабіць не ўмею я, нікчэмны чалавек.
І сам тутэйшы, з вёскі, не са знаці.
Даруй мне, Божа, мой лайдацкі век!»

І адказаў яму Ісус: «Не трэба
Смуціцца сэрцам чыстым без прычын,
Бо чалавек жыве не толькі хлебам, —
Яму малітва трэба для душы.

Бо няма праўды ў тым, каторы кажа,
Што ты нікчэмны, лішні на зямлі.
У час жальбы, у час гадзіны страшнай
Хіба не песняй трэба сум гаіць?

Хіба не песні чуем на палетках?
А прыйдзе радасць — хіба не пяюць?
Душа ў мелодыі — нібыта ў кветках,
І нельга яе знішчыць, захінуць.

Кажу табе: ў калыску і ў магілу
Кладуць заўсёды з песнямі людзей.
Бо ёсць душа. Бо ў песнях яе крылы.
А з крыламі, вядома, жыць лягчэй.

Таму ідзі. І словы новай песні
Няхай над полем зычна загучаць.
Той чалавек сапраўды уваскрэсне,
Хто здольны быў пяяць...

# Мы — беларусы!

Мы — беларусы!
Запомніце гэтыя словы!
Мы не зрачомся
Ні продкаў, ні песень, ні мовы.
Мы не адыдзем
У кнігі, зямлю і архівы.
Мы застанёмся,
Пакуль хоць адзін будзе жывы!

Нам наракаюць
Сыход з міжнароднай арэны,
Быццам прычына
У нашых бяспамятных генах.
Прама гавораць:
«Такога народа не будзе!»
А я супярэчу:
«Ў нас ёсць яшчэ мова і людзі!»

Спяшацца не трэба
На картах сціраць беларусаў.
Мы доўга цярпелі
Знявагі і здзек пад прымусам.

Нас многія вельмі
Сваімі дубцамі вучылі,
А мы і цяпер
Свайго цвёрдага «р» не згубілі.

І ёсць яшчэ край,
Што для ўсіх Беларуссю завецца.
Тут добрыя людзі,
Што маюць адкрытыя сэрцы.
У іх незвычайная, вельмі прыгожая мова.

Мы — беларусы!
Запомніце гэтыя словы!



Пагавары са мной на мове,
На нашай роднай, не чужой.
Адчуеш ты — у кожным слове
Душа яднаецца з душой.

І сэрца сэрцу адкрывае
Свае духоўныя сады —
Там салаўіны хор спявае,
Там смак крынічнае вады.

Там рэха продкаў прамаўляе
Малітвы светлыя здалёк,
Нібыта нас благаслаўляе
На добры шлях, на лёгкі крок.

У словах тых — надзеі нашы
І нашы мары пра жыццё.
Калі мы з мовай — нас не страшыць
Ні гвалт, ні мор, ні забыццё.

...Пагавары са мной на мове,
Забудзь на час пра «языкі».
Няхай гучаць у кожным слове
І продкі нашы, і вякі!



Спачатку было Слова.
І Слова было ў Бога.
І Слова было Бог.

У цемры жылі людзі.
У іх не было свята.
У іх не было дня.

Аднойчы ўзышло сонца.
І стала навокал светла.
І стаў навакол свет.

На свеце жылі людзі.
Але не ведалі Слова,
Не зналі, што ёсць Бог.

Таму людзі толькі вылі,
І толькі таму брахалі,
Калі не маглі маўчаць.

І вось аднойчы збылося:
У сэрцы з'явілася Слова.
І ў Слове тым быў Бог.

А потым узнікла мова.
І мова жыве ў Слове.
А ў словах жыве Бог.

Калі пакідаем мову,
Калі пакідаем Слова,
То нас пакідае Бог.

Бо
Спачатку было Слова.
І Слова было ў Бога.
І Слова было Бог.



Радзіма...
Дарога мая і прытулак.
Надзейнае сонца,
Што свеціць удзень і ўначы.
Дзівосная сіла
У сховах лясоў і рачулак,
Нібыта магніт
Мяне вабіць,
Каб мучыць ізноў і лячыць...



Родны край, нібы вогнішча ў цемры,
Што святлом сваім вабіць здалёку,
Як прытулак надзеі і веры
І як лекі ад кепскага зроку.

Тут трава мае крокі запомніць,
Вецер песні мае праспявае,
Маю радасць крыніца паўторыць
І нашчадак мой верш прачытае.

Толькі тут, толькі ў гэтай старонцы,
Маё сэрца не знікне бясследна.
Я часцінкай святла стану ў сонцы
І глытком кіслароду ў паветры.

Тут, на роднай зямлі, як у храме.
Хай жа буду у ім толькі свечкай,
Што ў душах людскіх не згарае
І з Айчынай яднае навечна…



І Лондан, і Парыж
далёка за кардонам,
І Рыа-дэ-Жанэйра
не свецяцца агні.
Жыву спакойны, ціхі,
амаль што невядомы,
Пішу на мове вершы —
і так мінаюць дні.

Бываў я у Варшавах,
у Кракавах і Гданьсках,
Па Вроцлаву таксама
ля Одэра гуляў,
Але, прызнацца шчыра,
у тых, не нашых паньствах
Я край свой нарачанскі
шчымліва ўспамінаў.

Хістаюцца чароты
над чыстаю вадою,
У рэчцы зіхаціцца
бліскучая луска.
Мой край, якою сілай
я звязаны з табою,

Што ты мяне не хочаш
далёка адпускаць?

Утульна мне і проста
сярод людзей знаёмых,
Сярод жанчын прыгожых,
правераных сяброў.
У гутарках, бывае,
хапае слоў салёных,
Ды гэта не змяншае
ні веру, ні любоў.

Паеду, пэўна, ў Лондан.
А можа, і ў Парыжы
Блукаць буду Манмартрам
ці дзесьці у Палях,
Але заўсёды буду
вастрыць дадому лыжы,
Па мове і па песнях
шукаць да шчасця шлях.



Захапляцца замежнай папсой
Нам з табою, мой дружа, не трэба.
Ёсць у нас свой крынічны напой,
Бохан ёсць нарачанскага хлеба.

Ды і песень шчымлівых такіх,
Што сціскаецца сэрца да млосці,
Не знайсці у краінах чужых,
Не спяюць нам замежныя госці.

Са стагоддзяў сівой даўніны
Нашы песні гучаць нібы рэха.
Словы продкаў нясуць нам яны,
На вялікую радасць і ўцеху.

Дык не здрадзім жа продкам сваім,
Мову нашу не стопчам, не кінем.
Хто захоплены словам чужым,
Той байструк ужо нашай Айчыне.

Захапляцца замежнай папсой
Нам не трэба, мой дружа, з табою.
Застанёмся самімі сабой
З нашай песняй, людзьмі і зямлёю.

# Вуж-гаспадар

З тлушчу вужовага свечку запалім,
Дзіўным агнём растрывожым прастору.
І адшукаем усё, што гублялі, —
Клікнем вужоў ратаваць нас ад гора.

З нетраў дрымучых мінулага веку,
З часу паганства да нашага сёння
Будзе паўзці бараніць чалавека
Вуж-гаспадар у бліскучай кароне.

Процьма вужоў нас абкружаць аблогай,
Хцівую смерць не падпусцяць і блізка —
Стане прырода нам лепшай падмогай:
Вуж зберажэ немаўлят у калысках.

Не, не звядзецца народ беларускі!
Нашу зямлю не заставіць крыжамі!
…Вуж-гаспадар, абкусай дзецям вусны,
Як толькі ўбачыш, што мову прадалі…

# Санет

Пад сховішчам гаючай цішыні
З-пад мяккае вільготнае зямліцы
Нястомна прабіваецца крыніца
І, як званочак, грае у гаі.
Каб у спякоту смагу наталіць,
Вадзіцы той чароўнае напіцца,
Прыродзе мусіш нізка пакланіцца
І ўдзячнай думкай месца асвяціць.

Вось так і душы моцна спяць да часу,
Але прачнуцца і ўзляцяць адразу,
Адчуўшы вуснамі радзіннай мовы смак.
Зноў на Радзіму вернецца сваяк,
І назавецца братам-беларусам
Пакуль што безназоўны мой зямляк…

# Правінцыя

Люблю цябе, правінцыя мая!
Мястэчка ціхае і вёскі за ракой.
Тут сябар мой жыве, жыве радня —
Зямныя людзі з радасцю зямной.

Тут па начах чуваць сабачы брэх,
А ўдзень каты выходзяць на шпацыр.
Паэтаў падымаюць тут на смех,
А ў шанаванні — дзядзька-брыгадзір.

Я і такой люблю цябе, люблю.
Даруе сэрца глупства і грахі,
Бо дзе знайсці мне лепшую зямлю
І ноч ля вогнішча ў тумане ля ракі.

У іншых колерах зіхціцца тут жыццё.
Ад гною добрага залежыць ураджай.
Тут гаспадар будуе сам жыллё
І ўсім гаворыць, што Айчына — рай.

…Хай многіх вабяць гмахі гарадоў,
Смурод асфальтавы і тлуму мітусня,
А мне радней духмяны пах палёў,
Мястэчка з возерам, спакой і цішыня…

# Гарадзішча каля Гуты

Гадзіннікі спыніліся даўно…
Маўчыць каменне вогнішча былога.
Па Галбяіцы ў Балтыку сплыло
Ўсё, што было тут з Богам і без Бога.

Мурог на поплаве — раскоша для кароў.
Што ім з таго, што гэта гарадзішча?
Тут водар траў — нібы з спрадвечных сноў,
Паўсюль слядоў — як з чортава ігрышча.

Мінулы рух заснуў у камянях.
У нетрах памяці жыццё хавае скарбы,
І новы дзень — даўнейшага працяг —
У лёс людскі свае ўплятае фарбы.

Мы пастаім каля былых муроў…
Мы ціха пасядзім ля Галбяіцы…
І вельмі востра зразумеем зноў,
Што час паўзе,
бяжыць,
імчыцца…



Ладдзя гайдаецца на хвалі, бы калыска.
Лятаюць ластаўкі над возерам так нізка.
Напэўна, зноўку пойдзе ціхі дождж…
Я па траве з рыбалкі басаnож
Прайду аселіцай да дзедавай каліткі.
І хай зусім прамокну я да ніткі,
Але ў душы паселіцца цяпло:
Ў маленстве тое ж самае было —
Ігралі кроплі музыку на дрэвах,
І голас мой губляўся ў гэтых спевах.
Шчаслівы дождж і светлы успамін.

…Ладдзя гайдаецца. Бярэ нажыўку лін…



Дзякуй Богу, яшчэ год мы пражылі.
І мне верыцца, што ўсё ж паразумнелі.
Зразумелі, што на роднае зямлі
Не забыліся бацькоў, не анямелі.

Роднай мовай моліцца душа,
Родным словам сэрца прамаўляе.
А чужое слова, як іржа,
І народ, і памяць раз'ядае.

А без мовы проста быдла мы,
Проста племя здраднікаў і хціўцаў,
Што ў палоне чаркі і маны,
Нібы статак дзікіх палахліўцаў.

Не давайце сэрцу заржавець!
Размякчайце вусны родным словам!
Беларусі — моваю квітнець.
Чалавеку — быць душой здаровым!



Не памераць нічым сініх рэк глыбіню,
Край азёр і лясоў, светлых мар і надзеі.
Я тваю прыгажосць да душы прытулю,
Я чароўнасць тваю каля сэрца сагрэю.

Ціхі шолах лясоў, звонкі спеў ручая,
І ружовы туман салаўінае ночы…
Падабенства няма у далёкіх краях,
І не знойдзе ніхто, калі нават захоча.

Я пачуцці святыя паўсюль пранясу,
А калі мяне лёс на край свету закіне,
Ўспамінаць буду ясных світанняў расу,
І твой вобраз у думках маіх не загіне.

Край азёр і лясоў, край дуброў і палёў,
Каласоў залацістых на ніве прывольнай.
Паўтараю ізноў… І малюся ізноў…
Беларусь, будзь заўсёды шчаслівай і вольнай!



У разбуранай рэальнасці шукаць
нейкі сэнс —
дарэмнейшы занятак.
Тут адметнае ўціскаецца
пад прэс,
і пануе
шэранькі парадак.

І не трэба розуму ствараць
рухавік
для Сонечнай сістэмы,
бо на плошчах гарадскіх
ужо гараць
вогнішчы,
дзе паляцца паэмы.

Ні вачэй, ні твараў —
толькі крык
рве ў шмаццё
матэрыю прасторы.
Я маўчу.
І ты ужо прывык.
А ў мазгах
капаюцца манцёры.

Голас твой
зліецца хутка
з крыкам,
бо спрацуе
ў галаве дыёд.
Хай я высахну,
хай стану Куперс-крыкам…
Клейце іншым
шыльду «Ідыёт».



Туманоў бялюткі кужаль
Ахінуў кусты і хаты,
І здаецца жоўтай ружай
Поўня ў вэлюме кудлатым.

Кіпцюры рукі марознай
Мякка скрэбаюць аб шыбу.
Ноч, як котка, асцярожна
Ля праломкі вудзіць рыбу.

Дзе туман? Дзе лёд азёрны?..
Не пазнаць вясковых хатаў.
Край нябёсаў чорны-чорны
Тумановы пудзіць статак.

А па вёсцы сон нябачны
Скрыпне, рыпне вайлакамі.
...Мы павінны быць удзячны
За жыццё, што побач з намі.

# Ружа на шкле

Студзень. Дождж. Ізноў адліга.
Снег чарнее ад вады,
І туман пануры ціха
Ліжа сцежкі і сляды.

То варона каркне хрыпла,
То сабака голас дасць.
Дзень у змрок сцякае звыкла,
Як на дно ў бузу карась.

Дрэвы ў кроплях выпарэнняў —
Плачуць быццам бы… Але
Як надзея, як маленне —
Ружа белая на шкле.



Чарговы лістапад…
Старая пані Восень
Не ў сілах утрымаць
Урыўкі мройных дум.
Ці пойдзе яна ў сад,
Ці пойдзе яна полем, —
Паўсюль лісты ляцяць,
І горне яе сум.

Як мала пекнаты
У строях засталося!
Карунак залаты
Ужо з'ядае ржа.
Празмернае слаты
Надвор'е напілося,
І прагне нематы
Стамлёная душа…



Неба начное — касмічны арган,
Кожная зорка — згушчэнне мелодый.
Ззянне — Бахчысарайскі фантан,
А цемра —
                    нібы багдадскі злодзей.

І ўсё ж такі цёпла маёй душы.
Ёй музыка — быццам смала-жывіца.
...На рыжым жалезе налёт іржы
Мелодыяй зоркавай зіхаціцца...



Дыхае восенню неба халоднае,
Далеч лістотай чырвонаю поўніцца.
Нешта няўлоўнае, нешта самотнае
Быццам бы чуецца, быццам бы мроіцца.

Хтосьці душу забірае палонную
На баляванне ў фарбы буяныя,
І яна мкнецца злучыцца з прыродаю,
Знову стаць чыстаю, стаць пакаяннаю.

Сум развітання з мінулай эпохаю,
З ліўнем пачуццяў, з каханнем пад поўняю.
Новай ісці (ці ляцець?) ёй дарогаю
Ўдалеч, дзе чырванню неба напоўнена...



Кроплі, як слёзы…
Халоднае шкло.
Далеч закрыла
смуга.
Ўсё, што мінула, —
урэшце, тло.
Ўсё, што прыйшло, —
туга.

Думкаю можна
ляцець у свет,
Але ж —
нялётны дзень.
Там, за акном,
памірае цвет
Колерам
у агмень.

Кволыя промні
таго агню
Тушыць заўзята
дождж.
І, як падатак
пустому дню,

З клёна
злятае
грош…



Раннія вечары восені паўнаводнай
Ходзяць каля платоў і местачковых хат.
Ім ужо не сустрэць постаці аніводнай.
«Спіць ужо ўсё даўно...» — ціха гаворыць сад.

На аксаміт зары дрэвы паклалі рукі,
Хочуць яе абняць і не пусціць у змрок.
Дзесьці за небасхіл зноўку сплываюць гукі —
Восень у садзе тым
робіць нячутны крок...



Снег ляціць і ляціць,
І па радыё кажуць,
Што на вуліцы — фронт,
А за фронтам ідуць халады.
Гэта нейкі мастак
Фарбу белую пэндзалем мажа —
Ён жадае схаваць
Папярэдняй эпохі сляды.

Белы снег. Цішыня.
Часу новы пачатак.
Новых слоў, новых спраў
Першародны адлік.
На анархію з’яў
Накладаецца белы парадак
І з нябёсаў мастак
Беспрасветны здымае парык.



Зімняя ноч. Сцюжа
Неба снягамі кружыць,
Грае ў трубе вецер
Незразумелы джаз.
Мы, дзякуй Богу, дома.
Нам тут усё знаёма.
Бог не пакінуў нас.

Чуеш, мароз мацнее,
Ноч на вачах чарнее,
Снег перастаў, і зоркі
Сыплюцца за акном.
А ва ўтульнай хаце
Музыкай ціхай шчасце
Кружыцца над сталом.

Бо за сталом святочным
Разам бацькі і дочкі,
І напаўняе хату
Звонкі дзіцячы смех.
Што нам патрэбна ў свеце?
…Божа, дай шчасця дзецям,
Як дзедмарозаў мех.

Зімняя ноч. Сцюжа
Зоркі ў акне кружыць,
Грае ў трубе вецер
Музыку для душы.
Нам тут усё знаёма.
Мы, дзякуй Богу, дома.
Добра на свеце жыць…



На Грамніцы веея кружыць
І шпурляе ў шыбы снегам,
То выццём душу узрушыць,
То ўлагодзіць гулкім смехам.

Запалю у хаце печку,
Светлым думкам усміхнуся.
Ля акна пастаўлю свечку —
Ў свет бясконцы памалюся.

Хай жа тым, каму не шчасціць,
Гэтай ноччу будзе светла.



Вось хутка скончыцца
сцюдзёная зіма,
Сплыве па рэчцы
холад у замежжа.
А нам здавалася —
канца зіме няма,
Здавалася,
што будзе вечна снежна.
Сярод снягоў
ды колкіх веяў-вей
Так цяжка жыць,
чакаючы адлігаў.
Вятры усходнія
вядуць свой жорсткі рэй,
І на рацэ
так многа ўмерзлых крыгаў.
Ды ўсё адно —
закон не адмяніць:
Зямля ізноў
павернецца да сонца.
Ты не сумуй,
што гэтак цяжка жыць,
Павер, зіма
не можа быць бясконца.



Промні касыя фарбуюць лістоту,
Ціха плыве павуцінавы дым.
Восень паціху астуджвае воды,
Дыхае яблычным пахам густым.

Што за сінеча! Якія нябёсы!
Хочацца крыкнуць: «Спыніся, жыццё!»
Ах, як пякуцца сцюдзёныя росы…
Ах, як трывожыць пачуццяў асцё…

Досыць эпітэтаў…
Восень, брат, восень.
Літасці мы у прыроды папросім…

# Позняя восень

Яснее прастора, пусцеюць палі,
У рэчцы вада халаднее.
Чарговая восень ідзе па зямлі,
Сукенка на ёй чырванее.

А вочы халодныя поўныя слёз,
Якія дажджамі пральюцца,
Глядзяць у зіму і ўжо бачаць мароз,
Баяцца назад азірнуцца.

А там, за спіной, — зяляніна травы
І птушак вясёлыя спевы.
Наперадзе ж — вуханне соннай савы
І голыя-голыя дрэвы…

# Вальс Блакітных азёр

На Блакітных азёрах туман.
Над палаткай вісіць маладзік.
Каля вогнішча сцішыўся наш балаган,
Ледзь чуваць, як гітара звініць.

Сярод верных і шчырых сяброў
Буду песнямі сэрца лячыць,
І, шчаслівы, адчую ізноў
Як салодка усё ж такі жыць

Нібы ў казцы чароўнай якой,
Пад аховай прыцішаных дрэў
Зразумею, як добра, што побач са мной
Тыя людзі, якіх я сустрэў.

Ля палатак танцуе туман,
У азёрах блішчыць маладзік.
Каля вогнішча сцішыўся наш балаган,
Ледзь чуваць, як гітара звініць.



Жнівень ты, жнівень…
Халодныя росы.
Золкі вячэрні туман.
Золата свецiцца ў пасмах бярозы,
Ў небе ужо караван.

Так відавочна пусцее прастора,
Голыя ціхнуць палі.
Жарсць прамінула. Прыходзіць пакора.
Воран ідзе па раллі.

Лепшыя лекі — спагада і ціша,
Сэрца ахутвае сон.
Раны туман вечаровы заліжа,
Возьме душу у палон.

Будзе яна і ў дажджы, і ў марозы,
Нібыта ў Бога ў цяпле.
Жнівень ты, жнівень…
Халодныя росы.
Жоўты лісток у акне.



То жоўты ліст, то ліст барвовы,
І шэрань напачатку дня.
А каля вёскі ў полі голым —
Сварлівы голас варання.

Як чорны саван віснуць хмары,
Ў вадзе бурштынам лёд блішчыць,
І каля клёнаў, як пажары,
Лістоты вогнішча гарыць.

І сум трывожным шкадаваннем
У небе сочыць птушак лёт.
Даюць лясы зарок маўчання,
Кастрычнік круціць калаўрот.

Надыдзе Здзіўжанне… І знікне
Вясёлы рух асенніх спраў.
А сэрца сцішыцца, прывыкне
Да новых святаў і забаў…



Сонца асенняй пяшчотай
Дзень летуценны ласкае,
Пасмы валос расплятае,
Даль напаўняе самотай.

Золата сыплецца долу,
Жоўтым праменнем іскрыцца,
Ў строях бяроз зіхаціцца,
Як над Данаяй анёлы.

Ў золаце ціхія вёскі,
Ў золаце пожні убранне.
Летніх надзей развітанне
Ставіць шматкроп'е і коскі.

Чуюцца гукі самоты…
Дню летуценнаму песні
Грае музыка асенні
І наганяе маркоты…



Верасень... Восень...
Дажджы ўжо не зводзяцца.
Голае поле не прагне вады.
Хмары на небе шалёныя носяцца
І наганяюць жахлівай нуды.

Справамі можна хоць трохі развеяцца,
Ды не надоўга — шуміць лістапад.
Музыка кружыць, лістотаю сцелецца —
У павуціне вальсіруе сад.

Дзіўнымі песнямі сэрца чаруецца,
Думкі далёка-далёка плывуць.
Лёс наш зямны у той музыцы чуецца.
І нам яго не мінуць...



Няспешна сонца хіліцца да долу,
Нібы сланечнік у двары маім.
І ён таксама быў, як я, вясёлы
І верыць не хацеў у існасць зім.

Ды вось яна, дзяўчына-баба восень
Ідзе па горадзе, фарбуе лісце дрэў.
Ужо як свята — блісне ў небе просінь,
Ужо як дзіва — нейкай птушкі спеў.

Здавалася, што восень так далёка
І што траве — бясконца зелянець.
Ды краявід ужо туманіць вока —
Самотна ўсё ж на жоўты парк глядзець…

Чмялі апошнія злятаюць на сланечнік,
Пакуль нектар іх водарам п'яніць.
А побач сохне шэры агурэчнік —
Ён дажывае, бо стаміўся жыць.

Змахну слязу і восені ўсміхнуся.
Мне даспадобы жоўты твой букет.
Я і з табой як-небудзь ужывуся.
Ёсць сад. Сябры.
І цёплы мой Сусвет…

# Норка

Зімні дзень дагараў… І зара
Ужо думала з неба сысці.
У засыпаным снегам трысці
Яе водбліск вісеў, як Мара.

Чырвань з неба лілася, як кроў,
І сцякала, густая, на след.
Яркім россыпам медных манет
Запяклася яна між кустоў.

І трывожнае штосьці было
У прыродзе, што клалася спаць:
Краявід немагчыма пазнаць —
Ўсё ў чырвоным тумане плыло.

У крывавым трысці каля ям,
Без надзеі на ноч і на дзень
У адчайнай балючай тузе
Норка грызла зубамі капкан.

…Толькі раніцай сціхла ў трысці
Валтузня, шапаценне і енк.
(Наш гуманны бязлітасны век
Плодзіць столькі калек пры жыцці!)

Там, па снезе з трысця да кустоў
Працягнуліся рыскай сляды.
На тры лапы было іх па тры,
А заместа чацвёртай — кроў…

# Нарачанскія азёры

## Возера Воўчын

Лагодны вецер
песціць трыснягі,
Туман кудзелю
ужо хоча прасці.
На Воўчыне —
ні суму, ні тугі,
А толькі цішыня
і водар шчасця.

Ля берагоў
на вольхах дзікі хмель
П’яніць душу
і сэрца суцяшае.
І наш Сусвет —
вялікі карабель
Па возеры
у вечнасць адплывае.

# Возера Лотвіны

Бераг стромкі.
Хвоі ля вады.
На Латвянскім возеры
прыгожа.
Раз пабыўшы,
хочацца сюды
Зноў вярнуцца,
каб пабачыць, можа,
Як на хвалі
ў месячную ноч
Весела
купаюцца русалкі
І як залацістых
промняў дождж
Стане знакам
добрае рыбалкі.

# Возера Расохі

На хвалях азёрных
гайдаюцца ціха лілеі.
Глядзіш — і ў пачуццях,
як кветкі, расце асалода.
Як добра, што можна
забыць на жыццёвыя веі
На беразе возера,
дзе лечыць сэрца прырода.

Туманнае ранне
і вечар барвова-зялёны,
Птушыныя спевы
і рыбы не ўбачанай плёскат
Зліваюцца ў еднасць
з дымком гаркавата-салёным,
Што цягне ад вогнішча
ля недалёкае вёскі.

# Возера Ходасы

Азёрны сон…
У мроях туманоў
То здань мільгне,
то прывід блісне вокам.
За гурбамі
замшэлых валуноў
Стары лясун
павольным пройдзе крокам.

У Ходасах —
люстэрку даўніны —
Легендаў і паданняў —
нібы зорак.
Там па акопах
даўняе вайны
Зноў сее росы
ціхі надвячорак…

# Возера Мядзел

Мядзел-возера… Паўвостраў Дубавы…
Тут пачатак даўняга падання.
І вартуюць тайны астравы
Пра сяброўства, здраду і каханне.

Не плывуць да Замка караблі,
Не гучаць вясёлыя размовы.
Але ж — прытуліся да зямлі —
І пачуюцца паданняў словы…

# Возера Больцік

Тут можна спеў глушца пачуць,
Пабачыць дзіўныя крыніцы
І час няўмольны падмануць —
Ён можа ў пушчы заблудзіцца.

Бо тут такая глухамань,
Як быццам гэта — край сусвету.
...Корч у вадзе, нібыта здань,
Вартуе цішыню і лета...

# Возера Глубля

Сярод узгоркаў высокіх
Возера чысты блакіт.
Там праплываюць аблокі
Ад берагоў у зеніт.

Водар духмяны ліецца
Ад медзяных верасоў.
Глубля — блакітнае сэрца
У зеляніне лясоў.

# Возера Мёртвае

Шаптаў замову варажбіт,
Сарока ў вербах сакатала.
І ў возеры застыў блакіт,
І яно Мёртвым раптам стала.

Празрыста-соннае вады
Не растрывожыць рыбы гранне.
Варажбіта таго сляды
Даўно згубіліся у багне…

# Возера Свір

Возера Свір будзе сніцца, напэўна,
Паннай чароўнай ці мо каралеўнай
З безданню сініх глыбокіх вачэй,
З тайнамі ліпеньскіх росных начэй.

Сцежкай лясною, амаль непрыкметнай,
Княскай высокай гарой запаветнай.
...Зноў каля Свіры хтосьці паліць касцёр —
Іскры ляцяць на спатканне да зор...

# Возера Глубелька

Лес махрыстаю сцяною
абступіў ваду,
Жоўты месяц над зямлёю
прыпыніў хаду.
На шчарбатую талерку
так падобны ён,
Але ў возеры-люстэрку —
нібы бог Харон.

Астравок на воднай гладзі —
роспачы ладдзя.
Ён у месяца ва ўладзе
на вякі… Хаця
Гэта толькі уяўленне,
месячны настрой.
Каля берага каменне,
а ў душы — спакой.



Набывае смак віно,
набірае моц каханне,
а здавалася, даўно
прамінулася світанне.

Калі сонны бляск зямлю
залаціў у колер свята,
ты шаптала мне: «Люблю», —
і глядзела вінавата.

Гэта зноў не паўтарыць,
але й заўтра будзе ранне.
Калі нас віно п’яніць,
значыць, ёсць яшчэ каханне.



За табою — неба блакітнае,
Пацалункі сонца на твары.
Прыцяжэнне тваё магнітнае
Нада мною зноў уладарыць.

Кубак шчасця каханнем поўніцца,
А на вуснах, бы ў спёку, смага.
Я з табою — як вецер-вольніца,
Я з табой — як туман-бадзяга.

Пэўна, чарамі заварожаны,
Забываю на час і справы.
У краіну тваю запрошаны
З ледзяной і пустой дзяржавы.

Дзе знікае туга самотная,
Дзе будзённасці шэрай хмара?
Ты — сустрэча мая святочная,
Ты — святлейшая мая мара.

Мне б застацца навек у вечнасці
З перапоўненым кубкам шчасця.
Сэрцу хопіць яшчэ сардэчнасці,
Калі сэрца чырвовай масці.



Доўгія ночы зімовыя,
Ціхія казкі вячэрнія.
Фарбы празмерна-ліловыя.
Вочы пяшчотныя, верныя.

Гэта усё нерэальнае
І, можа быць, нежыццёвае:
Нібыта зорачка дальняя
Ці, можа, свечка васковая.

Промні святла па-над цемраю,
Постаці душ над дарогаю
Сілы узрушваюць вераю,
Што яшчэ збудзецца многае.

Што на краіну лядовую
Прыйдзе цяпло атлантычнае.
...Казка з чароўнаю моваю
Дужа мне
сімпатычная...



Я хачу заблудзіцца ў тваіх валасах
І забыцца на свет у іх цёмнае ночы —
Як у мора, паплыць у бяздонныя вочы,
Адчуваючы шчасця бязмежнага пах.

Я хачу адарвацца ад грэшнай зямлі
І з тваёю душой паляцець у світанне.
Я не ведаў раней, што бывае каханне
І высокім, і чыстым,
як неба агні.



Хай рака нясе
яшчэ многа крыг
І блішчаць свінцом
ноччу лужы,
Як ля вогнішча,
ля вачэй тваіх
Я пагрэюся
пасля сцюжы.

Я стаміўся так
без твайго цяпла
І замерз саўсім
без пяшчоты.
На календары
ўсё зіма была,
І сцюдзёнымі
былі воды.

Адагрэюся
ля агню вачэй,
Да кахання зноўку
вярнуся.
Хай міне вось так
міліён начэй —
Я нічога ўжо
не баюся.

(Акрамя расстання...)



Асеннія вятры разносяць над зямлёй
асеннюю лістоту.
Асеннія дажджы ствараюць на зямлі
разводдзе шэрых луж.
Асенняя пара забрала у палон
самотную прыроду,
І чуецца паўсюль у крыках жураваў
дыханне зімніх сцюж.

Мы многа пражылі на гэтае зямлі
ў любові і каханні.
Асеннія дажджы не змогуць затушыць
душы чароўны жар.
Ты раніцай мяне, ужо як і заўжды,
разбудзіш на світанні,
І будзе пацалунак тваіх пяшчотных губ,
як парасон ад хмар…



Для цябе мае пішуцца вершы
У цішы вечаровай парой.
І ў апошнім радку, і у першым —
Думкі побач заўсёды з табой.

Ты і лёс, і жыццё, і каханне,
Маці дзетак прыгожых маіх.
Кожны верш — у пачуццях прызнанне,
Кожны верш — новы свет для дваіх.

У штодзённай рабоце і справах
Ты даеш мне цяпло і спакой.
Ты — сямейная ціхая гавань
У жыццёвай віхуры марской.

Для мяне дзень наступны, як першы:
Ён напоўнены будзе табой.
...Для цябе мае пішуцца вершы
У цішы вечаровай парой...



Мкнуцца гады чарадою
У невядомы нам рай.
То заіскрацца слязою,
То наваражаць адчай,
То затуманяць дарогі,
Ліўнем размыюць шляхі,
Ці сярод хмарнай аблогі
Густа рассыплюць грахі.

Але усё ж дзякуй Богу!
Поўніцца шчасцем жыццё:
Высушыць сонца дарогу,
Вычысціць зноў пачуццё.
Нам яшчэ доўга з табою
Разам па свеце ісці.
...Хай за гадоў чарадою
Гэты шчасліва ляціць...



Вецер лагодны дурэе з лістотай,
Гладзіць пяшчотна ваду.
Па узбярэжжы, стамлёны работай,
Побач з табою іду.

Будзем купацца ў возеры чыстым
І аглядаць берагі:
Можа, заўважым — у мроіве мглістым
Ў нетры сыходзяць грахі.

І пасвятлеюць і душы, і думкі,
Ссыплецца з сэрцаў іржа.
І заіскрацца надзеяў карункі,
Штучная знікне мяжа.

Весела хвалі купаюцца ў пене,
Плешчуцца ў нашых слядах.
Можа быць, шчасцем завецца імгненне:
Лета…
Сямейная пара…
Вада…



Закружыла белая мяцеліца
Пад аркестры сіверных вятроў.
Снежная крупа танцуе, сцелецца
У слупах віхурных між дамоў.

А у хаце смачна пахне стравамі…
І на кухні на зыходзе дня
У прыкуску з жартам і забавамі
Весела вячэрае сям’я…



Снег на вуліцы. А ў хаце
Цеплыня і ціша.
Урачыста, як на свяце.
Толькі вецер свішча.
Там, за вокнамі, буяніць
Бура маладая.
Тут, у печцы, палымяніць
Елка векавая.
Будзем слухаць песні буры,
Завыванне веі
І глядзець, як елка курыць,
Нашы рукі грэе.
Хай вятры бляюць авечкай,
Снег вятрыскі кружаць, —
Пасядзім маўчком ля печкі,
Цішы не парушым.
Што казаць? У нашай хаце
(Ясна без казання)
Шмат гадоў жывуць у ладзе
Шчасце і каханне…



Нават у добрых гасцях
Цягне дадому хутчэй
Сціплая радасць жыцця —
Блізкасць каханых вачэй.

Час-летуценнік імчыць,
Лічыць няўмольна гады.
Хочацца ў шчасці пражыць,
Не напаткаўшы бяды.

Хочацца многа паспець,
Хочацца многа спазнаць.
Многіх — душою сагрэць,
Многім — пяшчоту аддаць.

Разам з эпохай імчыш,
Вольнага часу няма.
Быццам гарыш, не дыміш,
А азірнешся — дарма!

Тлумна ўсё гэта… Хаця
Сэрцу штодня даражэй
Сціплая радасць жыцця —
Блізкасць каханых вачэй…



Паглядзім у вочы… Памаўчым…
Усміхнёмся, як у час спаткання.
Што — жыццё? Ўсяго салодкі дым
Над зямлёй з усходу да змяркання.

І няма прычыны сумаваць,
Што ў мінулым заімгліўся ранак,
І што птушкі з поўдня не ляцяць,
І што зноў намок дажджамі ганак.

Ёсць у нас сухі і ўтульны дом.
І яшчэ далёка да змяркання.
Мы кахаем — значыць, мы жывём.
Мы жывём — і значыць, ёсць каханне.

Паглядзім у вочы… Памаўчым…
Усміхнёмся, як у час сустрэчы.
Хай жыццё — ўсяго салодкі дым,
Але час змяркання — удалечы…



У сумесных жыццёвых турботах,
У гадах, што ідуць чарадой,
Буду помніць шаптанне чароту
І чароўнасць усмешкі тваёй.

У пакоі запалены свечкі.
Я, шчаслівы, да зорак лячу.
Як і ў першую нашу сустрэчу,
На цябе ў захапленні гляджу.

І няхай паўтараецца гэта:
Родны дом і святочныя дні.
...Пралятае над хатай камета
І танцуюць на свечках агні...



Аж да золаку, аж да рання,
Адганяючы дымку сноў,
Разважалі мы пра каханне,
Гаварылі мы пра любоў.

І было ўсё на свеце проста,
І жыццёвы святлеў прастор.
Нам здавалася, што узнёсла
Душы разам ляцяць да зор.

У акно пазірала поўня,
І смяялася, пэўна, шкло,
Што так доўга, так дзіўна доўга
Гаварылі мы абы-што.

Нам бы проста за рукі ўзяцца,
Сесці трошку яшчэ бліжэй,
Ну а потым пацалавацца
Ды на шэпт перайсці хутчэй.

Але ж не — пра любоў і шчасце
Гаварылі мы да зары,
Адганяючы хвалі страсці,
Нібы воблакі машкары.

Аж да золаку, аж да рання,
Адганяючы дымку сноў,
Разважалі мы пра каханне,
Гаварылі мы пра любоў.



Мы з Вамі не кахаліся,
Мы з Вамі не любіліся.
Мы раз пацалаваліся —
На гэтым і спыніліся.

Гарэла ў небе зорачка,
Была наліта чарачка.
Вясёлая гаворачка,
Салодзенькая парачка.

Мы болей не сустрэнемся,
Мы болей не падманемся —
У панцыры адзенемся
І словам не паранімся.

Сумуюць дрэвы голыя,
Плывуць аблокі белыя.
Чаму мы невясёлыя?
Чаму зусім не смелыя?

Спатканні забываюцца,
А ноч і дзень чаргуюцца.
Жаданні не збываюцца,
І святы не святкуюцца…

Мы з Вамі не любіліся,
Мы з Вамі не кахаліся —
Мы проста памыліліся,
Калі не ў час рассталіся…



Уяві: я табе падару цэлы горад з півоняў і руж,
І ты будзеш купацца у іх, як яшчэ не купаўся ніхто,
І ты станеш хваліцца знаёмым усім падарункам маім,
І, напэўна, за гэта ты будзеш мяне яшчэ болей
любіць.

Але кветкі завянуць, пасохнуць, і ссыплецца
з іх прыгажосць,
І пялёсткі загубяць цнатлівасць і, шэрыя, лягуць
на дол.
Тонкі водар рассеецца ў небе і дзесьці збярэцца
ля зор,
Сум агорне цябе і маркота ўвойдзе ў твой дом.

Не сумуй… На зямлі вечных рэчаў, пачуццяў і думак
няма.
І каханне, як ружа, успыхне, а потым — згарыць.
Мы жыццё сваё мусім спакойна і ціха пражыць
І падзякаваць Богу за горад з півоняў і руж…

*Генрых Гейнэ*



Хваінка стаіць адзінока
На голай паўночнай вяршыні.
У сне яе белаю коўдрай
Ахуталі лёд і снягі.
Ёй сніцца далёкая пальма,
Якая ў краіне Усходу
Адна у маўчанні смуткуе
На голай гарачай скале…

*Пераклад з нямецкай*

*Генрых Гейнэ*



Над горнымі вяршынямі
Лунае цішыня
І дрэва вершалінамі
Гуліць, як немаўля.

Згубілі моц вятры,
Маўчыць у лесе птушка.
Счакай жа трохі, дружа, —
Спачнеш і ты…

*Пераклад з нямецкай*

*Генрых Гейнэ*

# Ларэляй

Я не ведаю, што гэта значыць,
Што самота такая ўва мне:
Старажытным паданнем, няйначай,
Яна ў сэрцы пяшчотным жыве.

Ціхі ветрык свяжэе. Змярканнем
Рэйн віруе бунтоўную плынь.
Промні сонца вячэрняга ззяннем
Паляць вогнішчы горных вяршынь.

Прыгажосці дзівоснай дзяўчына
Там на стромкім абрыве сядзіць,
Залацяцца каралі няспынна,
Валасоў пазалота блішчыць.

Залацісты грабеньчык трымае
І расчэсвае косы свае.
Яна ціхую песню спявае,
І матыў той у бездань заве.

І вясляр у ладдзі невялічкай,
Зачарованы дзіўнай тугой,
Не заўважыць скалы той прывычнай,
Бо пакліканы ўверх вышынёй.

Я упэўнены: дзікія хвалі
Праглынуць весляра на ладдзі.
Ларэляй, твае песні схавалі
Маякі, што вялі па жыцці…

*Пераклад з нямецкай*

*Джордж Байран*

# Змяркане

Гэта час, калі з галінак дрэў
Льецца пошчак салаўя чароўны,
Гэта час, калі ласкавы спеў
З шэптам суплятаецца любоўным.
Лёгкі ветрык… Хваляў мяккі шум
Музыкай гучыць для адзіноты.
Кроплі рос на кветках, нібы сум,
А ў нябёсах зоры ладзяць соты.
На вадзе сінеча ўсё глыбей.
На лістах — бурнатае адценне.
І з хвілінай кожнаю гусцей
Робіцца празрыстасць сутарэння.
Грае дзень санату развітання —
Тае ў месячным святле
змяркане…

*Пераклад з англійскай*

*Інара Роя*



Спелыя яблыкі ў місе.
Голае ў вокнах галлё.
Цяжар зыходу — у нізе.
Грудзі наліты жыццём.
Ў ціхім забытым пакоі
Двое спасцігнуць сакрэт.
Смагі жыцця не натоляць
Вечныя рухі планет…

*Пераклад з латышскай*

*Інара Роя*



Ты прыйдзеш і пойдзеш, восень.
Шэрань колкая застанецца.
Застанецца бяроза голая.
Без лістоты — навошта сонца?

Няма лісця. Зімой суровай,
Можа быць, таму ёй і лёгка,
Што няма пра што турбавацца
І няма чаго больш губляць.

Вось таму, пэўна, ёй і лёгка…
Гнецца долу, а ўсё трывае.
Чалавек — не бяроза, не можа
Ліст жыцця хоць адзіны скінуць…

*Пераклад з латышскай*

*Фёдар Панцялееў*

❦ ❦ ❦

Ці вершы,
ці сябры затравяць.
Ўзарвуцца змрок,
святло ўва мне,
і згіну я…
Памінкі справіць
мой недапісаны санет.
Заб'ецца плоць
ў абдымках болю,
і без прысуду прыйдзе кат…

Я,
як віхор у голым полі,
рассыплю ў пыл жыццёвы лад.
Ды з плоццю марнай
тым імгненнем
не згіне існасць. Зорны дах
падорыць пераўвасабленне, —
і я пабачу новы шлях.

Душа асінавай лістотай
не затрымціць…
А я скажу:
хай за мяне дапіша слова
пяро асенняга дажджу…

*Пераклад з рускай*

*Фёдар Панцялееў*

# Няма яго

Нітка дарогі — пятлёй на глобус.
Блудны ветах лічыць слупы…
Праводзячы наш лядачы аўтобус,
Гранітныя «бабы» насупілі лбы.

Камні-бабы… Вешчая сіла
І прароцтва вышэйшая масць.
Каб я ведаў таксама пра тое, што знікла,
То наступнае б мог прадказаць.

Чуйна ў паэтах дрэмлюць прарокі.
Погляд, думкі… У іх — глыбіня.
Ды калі невядомы вытокі,
Як знайсці — дзе ўток ручая?

Што ж чакае?
Хіба дно стакана
Мне адкрые праменьчык святла?
Не злічыць на Русі ўсіх «балванаў»,
І прарока ў Айчыне няма.

І з газет, і з экранаў, як чадам,
Лжэпрарокі смуродзяць дарма.
Ды маўчанне тых ідалаў-«бабаў»
Сведчыць праўду —
прарока няма…

*Пераклад з рускай*

*Шэрод Сантас*



Досвітак ціхі, жанчына ў ложку сядзіць
з кубачкам кавы і попельніцай
на каленях, хоць і не паліць яна
і кава даўно астыла.
Апошнія месяцы два яны з мужам
спалі ў розных пакоях, і зараз
ужо, як па звычцы, пакой гэты стаў ейны.
Звонку неба зацягнута хмарай, як гэта звычайна
бывае ўвосень, на раніцу, ў свеце
пануе маўчанне, каторае сёння
зусім яе не пужае. І там, за акном,
верабей атакуе ўпарта
кустоўе разрослай каліны,
дзяўбе сіня-чорныя, быццам чарнільныя, ягады,
прычым некаторыя падаюць на падваконнік,
які ўжо ў плямах. Перад сваім уваходам
у яе пакой — ён апрануты, каб ужо рушыць
на працу,
і, пэўна, спяшаецца, але прамаруджвае, шаркае,
быццам жадае выцерці ногі аб ходнік.

Пачуўшы знаёмы ўжо гук, яна пазірае на мужа
спакойна, і гэтак ёй зноў удаецца
згубу зрабіць толькі бачнасцю згубы…

*Пераклад з англійскай*

I

Край Нарачанскі! Айчына святая!
Свет покуль гэты стаіць,
Нібы дзяўчыну, цябе я кахаю,
Ў сэрцы маім будзеш жыць
Подыхам вольным шырокіх прастораў,
Пахам смалістым сасновага бору,
Сном запаветным курганаў маўклівых,
Спевам-гульбой ручаёў гаманлівых,
Сенам духмяным стажкоў канюшыны,
Сінню валошак у полі жытнёвым,
Шчырай гаворкай — прадзедавым словам,
Полымем яркім калючай шыпшыны…
Але найперш, нібы з матчынай ласкі,
Ў сэрцы жывуць твае песні і казкі.

II

Песні і казкі… Легенды… Паданні…
Ў кожнай хаціне раднёй ганаровай
Ці у бяседзе, ці ў шумным гулянні
На кут садзяцца парой вечаровай.
І ажывае тады наваколле:
Нібы з прасторы туды, дзе застолле,

Рушыць нячутная прывід-жанчына,
Вуж прапаўзе па зямлі. І няспынна
Плачка заплача на выспе высокай,
Блісне брыльянтамі бог залачоны,
Месяц агнямі халоднай кароны
Высвеціць здані ля тоні глыбокай.
І закалышуцца ў травах суквецці.
Хто там? Русалкі? А то, можа, чэрці?

III

Пэўна, русалкі… І голас дзявочы…
Плача нібыта, нібыта смяецца.
Водблеск лускі… Некаханыя вочы
Вабяць з сабою…Зашчыміць ля сэрца,
Калі пачуеш, як плача дзіцятка,
Быццам згубіўшы ці мамку, ці татку.
Водгукам стогн адзавецца з узвышша.
З'явіцца постаць… Туман закалыша.
Твар без крывінкі, валос белы кужаль,
Вэлюм сукенкі даўнейшага строю.
Вецер праяву завабіць з сабою
І над дарогай у танцы закружыць.
…Зачараваны, узрушаны зданню,
Мусіш паверыць дзядам і паданню.

IV

Мусіш паверыць… Бо кажуць жа людзі,
Што, як праклён невядомага майстра,
Для напаміну, а можа, каб пудзіць,
Слуп мураваны стаяў каля Мястра.
Колькі гадоў? Дык ніхто і не знае,
Час у мінулым дакладнасць губляе,
Толькі вядома: да першай вайны
Слуп яшчэ сніў прыдарожныя сны.
Але ж вайною яго зруйнавалі,
Цэглу на друз раскідалі па горцы.
Людзі ж старыя ў шчырай гаворцы
Кажуць, што косткі ў слупе тым ляжалі.
Косткі людскія. Той слуп прыдарожны
Быў, як на дзіва, з улоння парожны.

V

Быў ён парожны… А косткі людскія
Доўга бялелі ў траве на узгорку.
Там палыны разрасліся сівыя.
Горка там стала. Бязлітасна горка.
Але гады праміналі, і косці
Ціха травой зараслі. Але штосьці
Дзіўнае там пачало адбывацца:

Чорная чайка там стала з’яўляцца.
Пасля дажджу, што лупіў перунамі,
З нетраў узгорка крыніца узнікла.
Ў Мястра пабег ручаёк… Неяк дзіка
Стала на выспе. Даўгімі начамі
Там нехта плакаў, затым нечакана
Постаць дзяўчыны ўставала з туману…

VI

Людзі хадзіць там і сёння баяцца:
Хто беражэцца — тых Бог абароніць.
Але ж не трэба з падання смяяцца, —
Лепей паслухайце ўночы… Там стогніць
Нехта пад тоўшчай зямлі і камення,
Нібыта рвецца на свет са скляпення
Ці у пакуце не можа забыцца…
Гляньце: зноў чайка над выспай журыцца,
І ручаёк гэтак сумна спявае,
Быццам таемнае нешта гаворыць.
З неба апоўначы сыплюцца зоры.
З імі ў траве немаўлятка гуляе.
Побач дзяўчына — туману праява.
Гэта яна, Браніслава…

## VII

Тое даўно адбылося на свеце.
Я раскажу вам, як мне расказалі
Людзі старыя. І вы ім паверце.
Праўда ўсё гэта. Маны — ні на цалю.
...Жыў у Мядзёле пан Кошчыц Антоні.
Старастам быў, меў шматлікія гоні,
Золата многа, не меней брыльянтаў,
Безліч убранняў прыгожых і трантаў,
Вернікам быў, спавядаўся ў касцёле...
Але ж быў хмурны і жорсткі без меры,
Не заўважаў ні на род, ні на веру.
Жыў, нібы вецер разбойны у полі.
Жонку любіў. Па гадах мог быць дзедам,
Дні праляталі, ды быў ён бяздзетны.

## VIII

Гэта прычына і стала бядою.
Поўная хата не мае нашчадка.
Гоні, багацце не возьмеш з сабою
Ў лепшы той свет. Але тут для парадку
Сыну б пакінуць палацы і грошы —
Хай бы шчасліва пажыў у раскошы.

Але не лёс… Ды не можа змірыцца
Кошчыц Антоні. Ён мусіў пусціцца
Ў лаўру Пячорскую. Стуль — цераз мора —
У Палесціну, у землі святыя.
Свечкі там ставіў, ліў слёзы скупыя,
Потым да Рыма ізноў цераз мора
Плыў і маліўся. І ў Ватыкане
Даў ён зарок перад Богам у храме.

IX

Там, у касцёле апостала Пётры,
Плачучы шчыра, шаптаў на каленях:
«Божа магутны, вялікі і шчодры,
Чуйны, пачуй майго сэрца маленне.
Ласку зрабі, хай сынок нарадзіцца.
Век табе буду служыць і маліцца,
Ну, а за гэта у парку Мядзёла
Мур пабудую святога касцёла…»
…Дзякуй жа, Божа! Малітвы ты чуеш.
Смагу ўсіх прагнучых ты наталяеш
І дабрынёй сваёй вечнай даруеш.
…Цуд незвычайны ў Мядзёле адбыўся —
Ў пана Антонія сын нарадзіўся…

## X

Сын нарадзіўся… Шчаслівы бязмерна,
Кошчыц майстроў аж з-за Альп запрашае,
І паступова, павольна, памерна
Ў ціхім мястэчку касцёл вырастае.
Копія рымскай святой базілікі,
Дзе пан Антоні маліўся… Вялікі
Купал у неба ўзнёсся крыжамі.
Богу — падзяка, святым — шанаванне.
Рупіўся шчыра мастак з Ватыкана,
Сцены распісваў біблейскім сюжэтам —
Храм і сябе услаўляў перад светам:
Фарбы паўсюль запякліся, як раны.
Сцэны прароцтва прыйшлі ў гэты кут —
Райская радасць і пекла пакут…

## XI

Сцэны прароцтва… Куды ні звярніся —
Ёсць папярэджанне ў будучых з'явах,
Толькі глядзі, назірай і дзівіся —
Тайнае стане адразу праявай.
Хто ж калі ведаў, каго што чакае?
Лёс то шануе, а то шкуматае
Ветразі марных надзей і жаданні.

Як ні круці, а адно — пакаранне
Вынесе Бог. Ён суддзя справядлівы,
Выверыць думкі усе і памкненні.
Крывасць душы і ля сэрца каменні
Ўзложыць на вагі. Галінкай алівы
Будзе адзначаны светлы душою,
Чорны ж — абсыпаны будзе іржою…

XII

Кошчыц выконваў зарок перад Богам,
Толькі ў душы дужа мала змяняўся.
Нават званы адгукаліся стогнам,
Калі Антоні крычаў ці злаваўся.
Быццам шчаслівы… Ды нешта ўсё шкодзіць…
Часта занадта яму падаецца,
Быццам з яго нехта побач смяецца,
А азірнецца — нікога, нічога…
Толькі ў вушах нечы голас шапоча:
«Пане Антоні, не твой то ж сыночак…»
Кошчыц тады ў базіліку, да Бога.
Моліцца шчыра. І здань наслання
Ціха сплывае ў сховішчы дня…

## XII

Шчасце няўлоўнае, як надвячорак.
Толькі ж, здаецца, і сонца свяціла,
А ўжо і цемра, як змрочны паморак,
Чорнай прасцінай ваколле накрыла.
Рукі працягнеш — не ўбачыш нічога.
Пані-няшчасце стаіць, як аблога,
Толькі далёкі агеньчык уночы
Вабіць надзеяю і радуе вочы.
Мабыць, святло не навечна патухла,
Можа, і шчасце узыдзе, як сонца,
Толькі ж яно не бывае бясконца…
Ў цемры не бачна. Ды можна падслухаць
Тое, пра што нам гавораць у казцы,
Тое, што ўбачыць ніколі не ўдасца…

## XIV

Ціха. Шамоцяцца мышы па цемры.
Ім таямніцы вядомы людскія.
Чуеце? Рыпнулі ціхенька дзверы —
Нехта бяжыць праз пакоі начныя.
«Гэта дзяўчына, — шапочуцца мышы, —
Быць прыгажуняй магла б і ў Парыжы.

Толькі у хату да Кошчыца ўзята
Нянькаю быць, бо дзіця без нагляду
Нельга пакінуць ані на хвіліну —
Надта ўжо хворае: кожнаю ноччу
Плача і плача, нібы хто сурочыў».
Хто зразумее тут няньку-дзяўчыну?
Кошчыцы спяць, ну а ейная доля —
Хлопчыка няньчыць без сну і патолі.

XV

Так шэпчуць мышы. Яны толькі сведкі
Рухаў дзявочых па цёмным пакоі,
Дум невясёлых, падобных на кветкі,
Што засыхаюць асенняй парою,
Песень тужлівых у ноч над калыскай
Доўгія спевы... Рабілася блізкім
Рэха ўспамінаў пра дом і каханне,
Што не вяртае ні вечар, ні ранне.
...Хлопчык заплакаў. Як родная маці,
Ўскочыўшы з ложка, дзяўчына, як птушка,
Зноў да калыскі ляцела, каб гушкаць,
Каб забаўляці ды калыхаці,
Ўзяўшы на рукі хлапчыну малога,
Сон адганяючы свой ад парога.

## XVI

Што адбылося? Чаму гэтак спешна
Мышы хаваюцца ў тайныя норы?
Што ж закрычаў гэтак хлопчык няўсцешна?
Што ж закрычала так нянька у горы?
Ўспыхнулі свечкі. Затупалі ногі.
Хата прачнулася, быццам трывогі
Далі сігнал. Галасіла кабета.
Ўсё мітусілася. І непрыкметна
Сон, як забойца, у мантыі чорнай
З хаты выходзіў і з цемрай зліваўся.
Кошчыц крычаў і ад крыку хістаўся,
Роспачы поўны. А рыкам пячорным
Нехта агідны з зямлі, нібы рэха,
Крык паўтарыў. І рассыпаўся смехам.

## XVII

Хлопчык жывы быў. Ляжаў на падлозе.
Кроў расцяклася чырвонаю плямай,
А на каленях на ім у знямозе
Нянька стаяла, як Белая Панна.
Што яна чула? Не чула нічога.
Бы скамянела. Дрыжала падлога…
Сцены плылі… Сталяванне давіла…
Спуджана чайка над хатай кружыла…

Ну, а далей? — А далей была жорсткасць.
Вось дзе Антоні ўжо даў сабе волі:
Палкаю біў, аж пакуль не спатоліў
Злосці сваёй. А дзяўчына ў бясконцасць
Ціха шаптала: « О Божа! О Святы!
Гэта ж быў сон... Гэта ён вінаваты...»

XVIII

...Заўтрашні дзень пачынаўся, як казка.
Сонейка ў небе зару цалавала.
Песціўся вецер. Ягоную ласку
Дрэва, як знакі увагі, прымала.
Хвалі на жвір наплывалі ляніва,
А на узгорку, якраз ля абрыва
Белая Панна стаяла, як свечка.
Ўдалеч глядзела, нібыта ў вечнасць,
Нешта шукала у сіні азёрнай,
Ціха якоесь закляцце шаптала.
Можа, малілася... Мо праклінала...
Недасягальнай была... Непакорнай...
...Грымнуў пярун. І праявы не стала.
Белая чайка над выспай крычала.

XIX

Заўтрашні дзень паміраў на зыходзе.
Сонца-кавун у зары даспявала.

Вецер калючы — распуснік і злодзей —
З дрэва лісты абрываў... І крычала
Белая чайка. На ўзгорку, над ярам,
Ў белай сукенцы дзяўчына, як мара,
Ўдалечы позіркам нешта шукала,
Вуснамі ціха малітву шаптала.
Пасмы валос распляталіся ветрам.
Цела дрыжала... Хацела яна
Возера выпіць вачыма да дна.
Ведала — ёй не нацешыцца гэтым.
...Цэгла на цэглу. За хвіляй — хвіліны.
Слуп вырастаў вакол белай дзяўчыны...

XX

Сведкі паданняў у вечнасць сышлі,
Сцежкі слядоў у траве патанулі,
Слёзы ў азёры з дажджамі сцяклі,
Сном летуценным гады прамінулі.
Можна ўсё гэта, канешне, забыць.
Жыць і не помніць сівога падання,
Але ж начамі на выспе-кургане
Чорная чайка трывожна крычыць,
Слуп мураваны ў тумане стаіць,
Плача дзіцятка...

# Змест

## І. «Дух набірае вышыню...»

## II. Палац чароўнай птушкі

**III. «Пагавары са мной на мове...»**

**IV. Подых восені**

## V. «Набывае смак віно...»



## Пераклады

*Літаратурна-мастацкае выданне*

**Пракаповіч** Ігар Міхайлавіч

**СНЕЖНЫ ВЭЛЮМ ШЫПШЫНЫ**
**Чорныя і белыя вершы**

*Зборнік паэзіі*

Адказны за выпуск *Генадзь Вінярскі*
Рэдактар *Валянціна Андрэева*
Вёрстка *Ларысы Ваўчок*
Карэктар *Алена Спрытніч*

Падпісана да друку 27.10.2011. Фармат 60х84 1/32.
Друк на рызографе. Папера афсетная.
Ул.-выд. арк. 5,12. Ум. друк. арк. 6,42.
Наклад 300 асобнікаў. Зак. 768.

ПУП «Кнігазбор».
Ліцэнзія № 02330/0003924 ад 08.04.11.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
Тэл./факс (017) 207-62-33,
тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка
ў ААТ «Аргбуд».
Ліцэнзія № 02330/0494197 ад 03.04.09.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.